E-mail: nchas@tbm.org.by

# Новы Час

№ 10 (39) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ВЕРАСЕНЬ 2004 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС* 63773 http://nchas.iatp.by

## Здань мінскай ратушы

Стар. 8



Фота У. Шлапак

**Вашыя міласці, шаноўныя спадарыні і спадары настаўнікі!**
**Бог даў нам усім жыць на прыгожай зямлі! Бог даў вам вучыць дзяцей любові да гэтай зямлі, асвятляць іхны розум ведамі, а іхныя сэрцы высокім духам! У гэтыя прыгожыя дні, мы шчыра віншуем вас са святам і зычым шчасця, здароўя, плёну і радасці ад вашых выхаванцаў.**

**Рэдакцыя Новага Часу**



## Віцебшчына стварае сімволіку

Камісія па распрацоўцы герба і сцяга Віцебскай вобласьці выращыла працягнуць конкурс па стварэнні сімволікі рэгіёну, які быў абвешчаны яшчэ ўлетку.

Абласная рада грамадскага аб'яднаньня «Беларускае дабраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры» паабяцала, што пераможца гэтага конкурсу атрымае прыз у памеры 25 базавых велічынь.

Нягледзячы на розгалас у сродках масавай інфармацыі, прапанова распрацаваць сімвалы Віцебшчыны не знайшла належнага водгуку ў грамадскасці. Да 15 жніўня з Віцебска, Чашнікаў, Мінску ды іншых гарадоў паступіла каля дзесяці праектаў 8 аўтараў.

Ніводная з прадстаўленых работ, якія мусяць уключаць гістарычнае абгрунтаваньне герба і сцяга Віцебшчыны, каляровую выяву сімволікі ды ейнае апісанне, не задаволіла камісію. Сябры камісіі вырашылі працягнуць творчы конкурс яшчэ на тры месяцы.

**Лера ВЕТРЫНА**

## Пражская выстава Пушкіна

28 верасьня ў праскай галерэі «Artmap» адбылася выстава беларускага мастака Алеся Пушкіна. Выстава прысьвечаная завяршэньню творчай працы мастака ў чэскай сталіцы.

Вось што распавёў падчас імпрэзы сам Алесь Пушкін: «Прайшоў роўна месяц з таго дня, як я прыехаў у Прагу. У выніку майго побыту тут напісаліся некалькі палотнаў. Гэта «Сьвяты Мікулаш над Прагай», «Францыск Скарына ў Празе» – дарэчы, першая мая станкавая праца. Бо раней Скарыну я пісаў толькі ў росьпісах і фрэсках.

На выставе паказвалі два фільмы. Адзін – пра пасёлак Бобр, зьняты Ірынай Волах. І другі – пра тое, што я зрабіў 25 верасьня на Карлавым мосьце. А я зрабіў пэрфоманс «Беларуская прысутнасьць».

Увогуле, вельмі цікава пасьля Бабра перанесьціся ў Прагу, пабыць на магілах Пятра Крэчаўскага й Васіля Захаркі, прайсьці па мосьце, па якім хадзілі Скарына, Агінскі, Караткевіч, Быкаў, Арлоў, Пазьняк, шэраг іншых нашых дзеячоў. Радуе, што і на маёй выставе сабралася шмат беларусаў.



Сёньня схадзіў у амбасаду Рэспублікі Беларусь, запрасіў іх на выставу. Яны ветліва на расейскай мове паабяцалі «принять это к сведению», але сёньня я не ўбачыў іх на выставе. Відаць, ім гэта не цікава. Цікава гэта тым, хто тут перабывае, працуе, і хто не забыўся на Беларусь».

**Радыё Свабода**

## Ордэн ад Папы Яна Паўла II

27 верасня папа Ян Павал II ў межах адмысловай аўдыенцыі ў Апостальскай Рэзыдэнцыі ў Кастлгандолфа, уручыў Кардыналу Беларусі Казіміру Сьвёнтку ордэн «Fidei Testis» – «Сьведка веры».

У аўдыенцыі браў удзел таксама канцлер пінскай курыі Станіслаў Паўліна і Апостальскі візітатар для грэка-каталікоў Беларусі, архімандрыт Сяргей Гаек.

Перад цырымоніяй уручэння ордэну, кардынал Сьвёнтэк перадаў Папу новы поўны «Імшал рымскі» ў перакладзе на беларускую мову.

Гэтае выданне ёсць важным крокам на шляху да ўвядзення беларускай мовы ў літургічнае жыццё Рыма-каталіцкай царквы ў Беларусі.

## Аднаўляецца вопыт савецкай школы

«Мы павінны зрабіць усё, каб падняць на больш высокі ўзровень якасць адукацыі і ні ў якім разе не паніжаць планку, устаноўленую ў савецкі час». Пра гэта заявіў кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка пад час сустрэчы з пераможцамі і лаўрэатамі Рэспубліканскага конкурсу «Настаўнік года Рэспублікі Беларусь-2004».

Кіраўнік дзяржавы назваў «найвялікшым набыткам» тое, што Беларусь захавала традыцыі савецкай сістэмы адукацыі, чаго не ўдалося зрабіць ніводнай іншай краіне на постсавецкай прасторы. «А вы ўзгадайце, як мяне крытыкавалі, калі я, яшчэ малады прэзідэнт, на пачатку 90-х заявіў, што ні ў якім выпадку нельга адыйсці ад савецкай школы. Тады нашы нацыяналістычна настроеныя кіраўнікі схапіліся, раней за ўсё, за рэформу школы – яны ўсё зламалі. Давялося гэта ўсё аднаўляць. А сёння і Расія, і іншыя постсавецкія рэспублікі вяртаюцца да гэтага», – сказаў беларускі прэзідэнт.

**БЕЛТА**

## «Клопат-2004»

У Віцебскім мэдычным ўнівэрсытэце прайшоў Другі гарадзкі агляд творчасьці людзей з абмежаванымі магчымасьцямі. Своеасаблівы фэст зладзіла грамадзкае творчае аб'яднаньне інвалідаў «Клопат», якое запрасіла да ўдзелу людзей з абмежаванымі магчымасьцямі, а таксама прадстаўнікоў шматлікіх грамадзкіх арганізацыяў рэгіёну.

«У параўнаньні зь аглядам «Клопат-2003» сёлета істотна пашыралася кола выканаўцаў, – адзначыў у інтэрвію парталу belngo.info прэсавы сакратар Віцебскага грамадзкага творчага аб'яднаньня інвалідаў «Клопат» Барыс Ладзік. – Падчас мерапрыемства паказалі сваё майстэрства каля 40 чалавек. Адметна, што калі ў леташнім аглядзе дамінавала творчасьць асобаў сярэдняга і паджылога веку, то сёлета выступала нашмат болей маладых людзей».

Падчас агляду прагучалі харавыя і сольныя сьпевы. Інваліды выканалі музычныя і тэатральныя нумары, прадэклямавалі паэтычныя творы (у тым ліку і ўласныя вершы). Апроч таго, была зладжана невялікая выстава прыкладной творчасьці.

Усе выканаўцы «Клопату-2004» атрымалі граматы ўдзельнікаў і памятныя падарункі. Апроч таго, аўтарытэтнае журы, якое складалася зь вядомых у Віцебску дзеячаў мастацтваў, адзначыла майстэрства чатырох калектываў і салістаў спэцыяльнымі прызамі.

У плянах аб'яднаньня інвалідаў «Клопат» разьвіцьцё агляду творчасьці людзей з абмежаванымі магчымасьцямі ў больш маштабнае мерапрыемства. «Падобна таму як Ё Параалімпійскія гульні, мы марым, што калісьці ў Віцебску паралельна са «Славянскім базарам» будзе праходзіць і міжнародны фэст творчасьці людзей з абмежаванымі магчымасьцямі,» – зазначыў сп. Ладзік.



## Севярынца знялі за паклёп?

Лідэр «Маладога фронту», кандыдат у дэпутаты ад Віцебскай-Горкаўскай выбарчай акругі № 17 Павел Севярынец пазбавіўся свайго статусу з-за выступу на мясцовым радыё. Старшыня выбарчай камісіі Святлана Мянжынская паведаміла, што ў звароце Севярынца ўтрымліваўся паклёп на кіраўніка дзяржавы і іншых службовых асоб.

Чыноўнікаў закранулі наступныя словы палітыка: «Альбо мы хочам і далей пагружацца ў эканамічны, палітычны і грамадскі застой і жыць у краіне, дзе ўсё вырашае толькі адзін чалавек, альбо мы выбіраем еўрапейскую, дэмакратычную будучыню для сябе і сваіх дзяцей». «Пры тым, што канкрэтнае прозвішча не прагучала, мяне папракнулі, што словамі «вырашае адзін чалавек» я абразіў кіраўніка дзяржавы. Па-другое, зазначылі, што ў нашай краіне – сацыяльная, эканамічная і палітычная стабільнасць па ўсіх параметрах, таму тое, што я сказаў, – не адпавядае рэчаіснасці», – патлумачыў Севярынец.

Агульны ж паклёп на службовых асоб усіх узроўняў, па меркаванні акруговай выбарчай камісіі, змяшчаўся ў наступных выказваннях: «Карупцыя, бюракратыя, хлусня на ўсіх узроўнях». У выніку Севярынцу анулявалі рэгістрацыю.

Зараз палітык рыхтуе скаргу ў Цэнтрвыбаркам. «Я працягваю перадвыбарную кампанію,– распавёў Павел Севярынец журналістам. – Наша каманда першая ў вобласці надрукавала агітацыйныя ўлёткі, іх было распаўсюджана больш за 25 тысяч. Мы абышлі не менш за 7 тысяч кватэр, паразмаўлялі з выбаршчыкамі. Мы не робім нічога супрацьпраўнага, а шчыра жадаем бачыць Беларусь сапраўды дэмакратычнай, еўрапейскай і заможнай краінай».

# Рэальныя праблемы звычайных людзей

***Старшыня Полацкай гарадской арганізацыі Грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» настаўніца і паэтка Алена Уладзіміраўна Сом, шырока вядомая па сваіх сцэнічных выступленнях як Лера Сом, зарэгістравана кандыдатам у дэпутаты па Полацкай гарадской выбарчай акрузе № 28. Наш карэспандэнт сустрэўся са спадарыняй Сом і ўзяў у яе інтэрв'ю для чытачоў газеты Новы Час***



**– Спадарыня Лера, як даўно вы ўзначальваеце гарадскую арганізацыю ТБМ у Полацку?**

– Каля года. Гэта не такі вялікі тэрмін, каб паспець зрабіць нешта сапраўды пераломнае, але мы змаглі правесці колькі мерапрыемстваў, якія садзейнічаюць папулярнасці арганізацыі і прываблiваюць новых людзей у яе шэрагі. Так, вялікі розгалас атрымала наша Калядная вечарына, спецыяльна да якой мы выпусцілі каляндарык з сімволікай ТБМ, шмат зацікаўленых людзей збіралі сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі, у гэтым годзе некалькі полацкіх настаўнікаў атрымалі магчымасць падвысіць сваю кваліфікацыю на семінарах па інавацыях у адукацыі, якія ТБМ праводзіла разам з прадстаўнікамі польскага Метадычнага Цэнтра лідэраў і выхавацеляў імя П.Арупэ. У перспектыве – паездкі па гістарычных мясцінах Беларусі, новыя імпрэзы, арганізацыя лекторыяў па гісторыі і культуры.

**– А як вы прыйшлі да рашэння балатавацца кандыдатам у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў?**

– У меня было вялікае расчараванне ад таго, што нашы парламентарыі, на маю думку, проста ігнаруюць вельмі важныя для захавання народа і дзяржавы пытанні беларускай культуры. Самыя фундаментальныя. Зразумела, я не адследжвала ўсе паседжанні, ды гэта і немагчыма – у нас няма «парламенцкага дзённіка», аднак я ніводнага разу, калі даводзілася глядзець інфармацыю пра паседжанні парламента, не чула там беларускай мовы. Не чула і занепакоеных рэальнымі праблемамі выступоўцаў. Канечне, усё гэта абмяркоўваецца з людзьмі і аднадумцамі. Неяк у гутарцы з Вольгай Іпатавай яна падштурхнула мяне на такі крок. Я заўсёды паважала гэтую таленавітую і мужную жанчыну, якая ўзначаліла Саюз пісьменнікаў у складаны і непрадказальны час. Мы пазнаёміліся пад час аднаго з яе выступленняў у Полацку і пры сустрэчах неаднаразова размаўлялі пра тое, што можна зрабіць для паляпшэння сітуацыі, якая склалася ў нас з нацыянальнай мовай і культурай. Сітуацыя ж такая, што простай асветніцкай працы на месцах недастаткова, хоць і яна, безумоўна, мае вялікае значэнне. Ініцыяцыя культурных праблемаў на ўзроўні беларускага парламента паспрыяла б, на маю думку, станоўчым зрухам.

**– А якія яшчэ рэальныя праблемы, апроч абароны ад знішчэння беларускай мовы і культуры, вы лічыце неабходным уздымаць і вырашаць у Палаце прадстаўнікоў, калі на выбарах выбаршчыкі выкажуць вам давер?**

– З уласнага вопыту і з сустрэчаў з вялікай колькасцю звычайных людзей я ўсвядоміла, што існуе немалы шэраг грамадскіх і сацыяльных праблем, вырашаць якія трэба зараз і якія ў прынцыпе не можа вырашыць чалавек, што прыйшоў у дэпутаты з блаславення ўлады. У Палату прадстаўнікоў мясцовыя органы кіравання высоўваюць кіраўнікоў таго сацыяльнага ўзроўню, якія на сваёй скуры не адчуваюць, што такое аддаць палову маленькай зарплаты ці пенсіі на камунальныя паслугі, і чыя зарплата намнога пераўзыходзіць сярэднестатыстычную, якую насамрэч атрымлівае вельмі малы адсотак насельніцтва. Калі б гэтых кіраўнікоў прымусілі пажыць год-другі на зарплату маладога настаўніка ці ўрача, работніка сферы культуры ці якога простага прадаўца – у краіне хутка б пачаліся пераўтварэнні ў эканоміцы. Калі б гэтыя прадстаўнікі ўлады хоць трохі пахадзілі пешшу па нецэнтральных мікрараёнах фактычна любога нашага горада, там бы неўзабаве з'явіліся нармальныя дарогі і тратуары, палепшылася б транспартнае абслугоўванне.

**– Дык што, на вашу думку, лепш ставіць да кіравання выканаўчай уладай, выбіраць для заканатворчасці простых людзей?**

– Трэба ставіць здольных і неабыякавых да чужога болю людзей, якія паказалі сябе прафесіяналамі прынамсі ў выбранай галіне. Людзей, якія здольныя вучыцца, прыслухоўвацца да парадаў спецыялістаў, і адначасова дастаткова ўпэўненых у сабе, людзей з самапавагай, каб адстойваць сваю пазіцыю перад усім і перад усімі, шануючы перад усім прынцыпы справядлівасці і праўду.

**– Вы лічыце, што ў мінулым складзе Палаты прадстаўнікоў такіх асоб не было?**

– Цяжка ацэньваць штосьці, пакуль сам не пакаштаваў гэтага хлеба... Але калі дэпутат, які чатыры гады фактычна не сустракаўся са сваімі выбаршчыкамі, пачынае цяпер, перад новымі выбарамі, пералічваць, колькі добрых законаў ён прыняў за час сваёй працы ў Палаце, хочацца спытаць – ці ёсць там хоць адзін закон, які рэальна палепшыў наша жыццё? Нешта я не сустракала чалавека, які б сказаў: «Так, за апошнія гады я стаў жыць намнога лепей». Людзі выказваюцца якраз наадварот – што стала невыносна высокай камунальная плата, што перавялі без ніякай кампенсацыі на нявыгадны кантракт, што заробку ці пенсіі не хапае на нармальнае харчаванне, не кажучы ўжо пра адзенне і адпачынак, што пагоршылася медыцынскае абслугоўванне...

**– А за што вы будзеце змагацца ў тым выпадку, калі станеце дэпутатам парламента?**

– За паляпшэнне стану жыцця звычайнага чалавека ў першую чаргу. Дастойныя заробкі, прыстойныя пенсіі, адмена прымусовых кантрактаў, развіццё малога бізнесу, пад'ёмная для звычайнай сям'і кватплата... Спіс вельмі доўгі, бо цяжкіх праблем у грамадстве назапасілася шмат. І яны не могуць быць вырашаны каманднa-адміністратыўнымі ці прапагандысцкімі метадамі. Калі б усё сапраўды было добра, не трэба было б бясконца пераконваць мільёны людзей у гэтым з тэлеэкранаў.

**– Спадарыня Лера, вы – настаўнік па адукацыі і прафесіі, але ж не закранулі пакуль сферы адукацыі...**

– Гэта не таму, што ў гэтай сферы няма праблем. Як настаўнік з 15-цігадовым стажам я добра ведаю вострыя праблемы асветы і лічу, што нам патрэбна сапраўдная, а не касметычная рэформа школы. Тое, што нам зараз выдаецца за рэформы, не дасць дзецям ні рэальнай разгрузкі, ні рэальных ведаў. Але рэальная рэформа немагчымая без дадатковага фінансавання. Усе добра ведаюць, што адукацыя – гэта ўкладанне грошай у нашу будучыню, а пакуль што школьная адукацыя, як і культура, фінансуецца па астаткавым прынцыпе. Хоць бы прыблізна прыкіньце, колькі камп'ютарных класаў можна было б набыць за кошт аднаго прэзідэнцкага «Боінга»? Хіба мы такія багатыя, каб набываць самалёты па шматмільённых коштах?

**– Дазвольце запытаць вас пра надзённае пытанне – рэферэндум пра адмену артыкула нашай Канстытуцыі аб максімум двух тэрмінах прэзідэнцтва.**

– Маё стаўленне да гэтага пытання абсалютна адмоўнае. Нельга перапісваць Асноўны закон дзяржавы па ініцыятыве аднаго чалавека. У працэс прыняцця Канстытуцыі ўцягваюцца мільёны людзей, якія не ў стане ацэніць, як спрацуе той ці іншы артыкул Канстытуцыі ў перспектыве. Гэтым павінны займацца юрысты, спецыялісты па Канстытуцыйным праве. Інакш рэферэндум ператвараецца ў галасаванне на эмацыйнай аснове, а эмоцыі не лепшы будаўнічы матэрыял для трывалых законаў.

**– Вы сябра Партыі БНФ, да якой афіцыйная ідэалогія намагаецца прышчэпліваць, мякка кажучы, не лепшае стаўленне... Ці не замінае гэта ў перадвыбарнай барацьбе?**

– Я ўступіла ў Партыю БНФ, таму што на сённяшні дзень гэта адзіная партыя, якая дэкларуе неабходнасць нацыянальнага і культурнага адраджэння Беларусі, адраджэння нашай мовы. Як настаўнік і пісьменнік я не магу стаяць убаку ад гэтага пытання. Тым больш, што і агульная дэмакратычная платформа БНФ мне вельмі блізкая. А што да перашкодаў... Дзяржаўнае тэлебачанне і дзяржаўныя СМІ свядома ствараюць адмоўны вобраз БНФ, не даючы прадстаўнікам партыі магчымасці выказацца ў сваю абарону. Але людзі цудоўна ўсё разумеюць. БНФ на самой справе, а не на словах заўсёды выступала ў абарону правоў звычайнага чалавека, за сапраўдную, а не лозунгавую дэмакратыю.

**– А што такое сапраўдная дэмакратыя для вас асабіста?**

– Этымалагічнае разуменне слова «дэмакратыя» – як простая ўлада большасці даўно не з'яўляецца актуальным. У сучасным разуменні дэмакратычнае грамадства, на маю думку, – гэта аб'яднанне людзей з рознымі перакананнямі на аснове агульных, абавязковых для ўсіх, законаў. У дэмакратычным грамадстве паважаюцца каштоўнасці і ідэалы любога грамадзяніна, нават у тым выпадку, калі яны не супадаюць з агульнапрынятымі (зразумела, калі не парушаны закон).

**– Вы жыхарка знакавага для Беларусі горада – Полацка... Што для вас гэты горад і што вы збіраецеся рабіць непасрэдна для палачанаў, якія вас выбіраюць?**

– Я не проста жыхарка Полацка, я карэнная палачанка. Полацк – мой адзіны і любы горад. Сюды я дабілася размяркавання пасля атрымання першай вышэйшай адукацыі – Віцебскага педінстытута, сюды перацягнула свайго мужа, дарэчы, патомнага масквіча... Я лічу, што Полацк павінен зрабіцца турыстычным і культурным цэнтрам еўрапейскага ўзроўню. Да слова, цяперашняе кіраўніцтва горада ўжо ідзе ў гэтым накірунку. І я буду прыкладаць усе намаганні, каб дапамагчы майму гораду хутчэй прайсці гэты няпросты ў нашых умовах шлях. Калі перайсці да канкрэтных цяперашніх балючых пытанняў, што патрабуюць хуткага вырашэння, – то гэта высокія камунальныя плацяжы пры нізкім узроўні абслугоўвання жыхароў, зварот увагі гарадскіх уладаў на катастрафічны стан дарог і тратуараў ва ўсіх нецэнтральных раёнах Полацка.

**– Дзякуй за размову. І – удачы вам.**

**Гутарыла**
**Ірына КАРАЛЁВА**

## АГП можа страціць 58 кандыдатаў

**Аб'яднаная грамадзянская партыя (АГП) можа пазбавіцца значнай часткі сваіх кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі. Гэта адбудзецца, калі пацвердзіцца інфармацыя аб прызнанні Міністэрствам юстыцыі нелегітымным VIII з'езда партыі, які адбыўся 29 жніўня. На ім было вылучана 58 кандыдатаў у дэпутаты.**

Інфармацыя пра тое, што з'езд ужо прызнаны нелегітвымным Міністэрствам юстыцыі, прагучала 25 верасня на паседжанні Цэнтрвыбаркама пры разглядзе скаргі актывісткі АГП народнай артысткі Беларусі Зінаіды Бандарэнкі, якая балатуецца па Смаргонскай выбарчай акрузе № 61. Старшыня Смаргонскай акруговай камісіі падаў у ЦВК факс, атрыманы ім з Міністэрства юстыцыі. У ім паведамляецца, што Мінюст прызнаў з'езд АГП нелегітымным.

Прасветліць сітуацыю пакуль не можа нават намеснік міністра юстыцыі, сябра ЦВК Валеры Міцкевіч. У інтэрв'ю БелаПАН ён заявіў, што нічога не ведае аб падобным рашэнні. «Я не лічу гэту паперку дакументам», – сказаў Міцкевіч. Па яго словах, у бліжэйшыя дні ЦВК будзе высвятляць, ці прымаў Мінюст афіцыйнае рашэнне аб прызнанні нелегітымным VIII з'езда АГП, ці ўзніклі праблемы толькі з рэгістрацыяй Зінаіды Бандарэнкі.

Прадстаўнік Аб'яднанай грамадзянскай партыі ў ЦВК Міхаіл Пліска паведаў, што ў выпадку прызнання з'езда нелегітымным, АГП, безумоўна, страціць частку сваіх кандыдатаў. Аднак, па яго словах, самыя моцныя прадстаўнікі партыі, у тым ліку і яе старшыня Анатоль Лябедзька, вылучаліся паралельна яшчэ і шляхам збору подпісаў. Такім чынам, найбольш «прахадныя» кандыдаты ад партыі ў любым выпадку працягнуць удзел у выбарчай гонцы.

# Сустрэча ў Таронта

**На пачатку верасня прайшла 26-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі, яе асноўная тэма – «Праблемы захаваньня мовы, культурных набыткаў і гістарычных каштоўнасьцяў Беларусі»**




З благаславення айца Вячаслава – святара Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы Святога Кірылы Тураўскага і дзякуючы арганізацыям-фундатарам: Згуртаванню Беларусаў Канады (ЗБК) і Беларуска-Амерыканскаму Задзіночанню, Інк. (БАЗА), а таксама арганізатару-гаспадару Сустрэчы – Тарантаўскаму аддзелу Згуртаваньня Беларусаў Канады, адбылася 26-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі.

Зусім не перабольшу, калі скажу, што гэтая сустрэча - найважнейшая гістарычная падзея ў жыцці нашых суайчыннікаў у эміграцыі. Пачынаючы ад першай сустрэчы беларусаў на Ніягарскім вадаспадзе ў 1952 годзе, такія імпрэзы і да сёння ладзяцца кожныя два гады – у Канадзе ці ў Амерыцы.

У невялічкай утульнай зале Беларускага Грамадска-Рэлігійнага Цэнтра сабраліся апантаныя, неабыякавыя да будучыні сваёй Радзімы беларусы-эмігранты з Таронта, Лос-Анджэлесу,-Чыкага, Нью-Джэрсі, Нью-Ёрка, большасць з якіх болей за паўстагоддзя пражылі далёка ад Беларусі, але засталіся вернымі краіне свайго паходжання. Гэта вядомыя асобы – Кастусь Акула, і спадарыня Раіса Жук-Грышкевіч, і Ян Запруднік, і Вітаўт Кіпель, і Вячка Станкевіч...

Сустрэча, па добрай традыцыі, урачыста распачалася з выканання гімнаў трох дзяржаваў: Беларусі, Канады, Амерыкі.

Трэба было чуць, з якой непадробнай любоў'ю, з верай у незалежнасць і волю Бацькаўшчыны, з несхаванымі слязьмі гонару у вачох і светлымі тварамі ўсе заспявалі Беларускі нацыянальны гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Апошні раз беларусы Канады ладзілі ў Таронта 21-ю сустрэчу ў 1994 годзе. Зачакалася грамада... Пра тое сведчыць безліч прывітальных тэлеграм, тэлефанаванняў, лістоў, дасланых на сустрэчу. Доктар Пётра Мурзёнак зачытаў вітанне Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі спадарыні Івонкі Сурвіллы. Афіцыйнае вiншаванне атрымалі і ад спадара Дэвіда Мілера – мэра горада Таронта, з беларускай Амбасады тэлефанавала спадарыня Ніна Мазай. Свае цёплыя прывітальныя словы перадалі і прадстаўнікі Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», Алесь Кот прачытаў прывітанне ад беларусаў Еўропы.

Асабіста ж з прамовамі выступілі старшыня Галоўнай Управы ЗБК сп. Пётра Мурзёнак, прадстаўнік муніцыпалітэта Таронта, старшыня беларускай суполкі ў Нью-Ёрку сп. Віталь Зайка.

Асноўная тэма сёлетней сустрэчы – «Праблемы захаваньня мовы, культурных набыткаў і гістарычных каштоўнасьцяў Беларусі».

Эмацыйнае напружанне на сустрэчы было вельмі высокае: грамада прагнула інфармацыі, многія мелі чым падзяліцца, выказаць свае меркаванні, нават паспрачацца і знайсці праўду. Карыстаючыся зручнай нагодай, старшыня Тарантаўскага аддзелу ЗБК і, дадам, ласкавая вядучая першага дня сустрэчы сп. Надзея Дробіна ўзгадала даўнюю прыемную падзею – 4 верасня 1953 года ажаніліся ганаровыя сябры ЗБК, легендарныя асобы – Раіса і Вінцук (на жаль, не дажыў да гэтага дня) Жук-Грышкевічы. Усе прысутныя шчыра павіншавалі сп. Раісу з надыходзячым 85-годдзем.

Грамада працавала ў трох секцыях і падзялілася на наступныя дыскусійныя групы:

**«Што я магу зрабіць для захаваньня мовы, культуры і гістарычных нататкаў Беларусі?»** – прафэсар Ватэрлускага Універсітэту, доктар Зіна Гімпілевіч;

**«Беларуская культура ў СССР: савецкая ці нацыянальная?»** – пісьменніца, ганаровы акадэмік Міжнароднай акадэміі навук «Еўразія», кавалер ордэна «Знак Пашаны» і медаля Ф.Скарыны Вольга Іпатава;

**«Захаваньне самасьвядомасьці»** – старшыня ЗБК, доктар Пётр Мурзёнак.

Адметнасць першага «круглага стала» была ў тым, што сп. Зіна Гімпілевіч вяла дыскусію на ангельскай мове. Гэта таксама склалася традыцыйна, каб кожны, хто цікавіцца беларускім пытаннем, нават англамоўны сябра ЗБК, змог бы прылучыцца да беларускай культуры - даведацца пра яе багатую гісторыю, пра нашыя праблемы, а можа, і падзяліцца сваім вопытам і думкамі.

Як журналісту мне цікава было паслухаць і ўзяць удзел у кожнай кампаніі.

Тым больш, што падабалася і манера, і сама атмасфера дыскусій: без прыкрай афіцыёзнасці, незакамплексавана і, разам з тым, з вялікай павагай і пашанай адзін да аднаго. Смела, інтэнсіўна, а часам і з вострым нервовым накалам выступалі аратары, выкладаліся, як кажуць, да апошняга.

Здавалася, што панавала ўся стракатая гама чалавечых пачуццяў. Я атрымала прафесійную і проста чалавечую асалоду ад асэнсавання сябе Беларускай з вялікай літары. Увесь сэнс і важнасць гэтага я асабліва зразумела зараз – на адлегласці ў 9 тысяч кіламетраў ад Бацькаўшчыны.

У выніку амаль што пяці гадзін абмеркаванняў кожная з груп выпрацавала свае прапановы для ўключэння іх у рэзалюцыю.

Не спадзявалася я сустрэць там свайго калегу, беларуса па паходжанні, журналіста рускамоўнай газеты «Русский экспресс», якога, што цікава, настальгія паклікала да «сваіх». Наклад выдання 14 тысяч экзэмпляраў, а гэта значыць, што водгук пра сустрэчу беларусаў прачытаюць не толькі ў самім горадзе, але і ў прыгарадах Таронта, дзе з задавальненнем набываюць і рускую прэсу. Вось і будзе чытачам своеасаблівая прэзентацыя Беларусі!

Назаўтра з раніцы пачалася Багаслужба ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве Святога Кірылы Тураўскага. Апасля пісьменнік, першы старшыня ЗБК Кастусь Акула, нягледзячы на свой паважаны ўзрост, з гумарам і імпэтам кіраваў урачыстым сходам, прадставіў наступныя даклады:

**«Роля палітычнае эміграцыі ў абароне беларускае дзяржаўнасьці»** – старшыня Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку, беларускі навуковы даследнік, доктар Вітаўт Кіпель;

**«Беларуская дзяржаўнасьць на сучасным этапе: замацоўваецца ці расслабляецца?»** – сустаршыня Кааліцыі ў абарону дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі доктар Ян Запруднік;

**«Гістарычная арыентацыя ў часе і прасторы»** – Вольга Іпатава;

**«Васіль Быкаў: памяць майго сэрца»** – прафесар Ватэрлускага Універсітэта, доктар Зіна Гімпілевіч.

Хачу падкрэсліць, як моцна ўсіх прысутных уразілі даклады другога дня. Сама сутнасць паведамленняў, чыстая адмысловая беларуская мова аратараў, сумленнасць у меркаваннях, разуменне і тлумачэнне нацыянальнай ідэі... Усё гэта ўсхвалявала душу, стала стымулам да разважанняў...

Хвіліна маўчання завяршыла 26-ю сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі. Успаміналі Васіля Быкава...

На трэці дзень з самага ранку ўсей грамадою здзейснілі паломніцтва да Беларускага Памятнага Крыжа ў Мідленд (недалёка ад Таронта).

Як я даведалася, з ініцыятывы сп. Вінцука і яго жонкі Раісы Жук-Грышкевіч быў пастаўлены гэты першы беларускі помнік у Паўночнай Амерыцы - вялікі Крыж Св. Ефрасінні Полацкай. Беларуская грамада дасюль кожны год збіраецца каля яго памаліцца за лепшую долю Бацькаўшчыны.

26-я сустрэча атрымалася надзвычай багатай і плённай, бо ўзнімаліся і палітычныя аспекты, але агульным жа лейтматывам абодвух дзён стала думка: «...збераджэм сваю мову і гісторыю – збераджэм самасвядомасць і гэтым дапаможам сваёй Радзіме...».

Сапраўды, калі глядзела я на постаці паэта Сяржука Сокалава-Воюша, Віялеты Кавалёвай (кіраўніца фальклорнага гурта «Яровыя людзі»), Руслана Качаткова, Ірыны Варабей, на працы сталых і маладых мастакоў – Антона Вараб'я, Аляксандры і Ганны Русецкіх, Івонкі Сурвіллы, Пётры Шварцмана, Паліны і Яны Клімавых, Аляксея Гаўрыловіча, Надзеі Шкубы, Яўгеніі Шаўчэнкі, творамі якіх, дарэчы, была прыбрана зала БГРЦ, прыгадаліся словы Уладзіміра Караткевіча : «...І адзін можа!»... А нас жа многа!

Хто, як не мы, носьбіты беларускай мовы, здолеем спрычыніцца да лепшае будучыні нашага народа, калі ўсвядомім, наколькі важна прэзентаваць вобраз Беларусі па-за яе межамі, працягваць пачатую працу бацькоў і не пакідаць мову нашу беларускую, каб не ўмерлі.

**Вераніка ПАНІЗЬНІК,**
**сябра ГА «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў»,**
**Канада**

**Фота аўтара**







# Упэўненым крокам, не ведаючы куды

На такую думку наводзіць у час рэферэндумаў смеласць нашых людзей, якія маюць права галасаваць. Раней, пры Сталіну, у школе вывучалі «Канстытуцыю СССР», недзе ў чацвёртым ці пятым класе. У галовах нават двоечнікаў засталіся веды, што Сталінская канстытуцыя – найлепшая ў свеце, а сацыялістычная дэмакратыя – цуд справядлівасці ў параўнанні з «буржуазнай». З такімі ведамі можна было (і неабходна было) без сумневу ісці на любыя выбары. Зараз ніхто так не вучыць, ва ўсялякім разе адкрыта. Тым не менш упэўненасці ў сваіх здольнасцях ацэньваць артыкулы Канстытуцыі не паменшыла. Добра гэта ці не? Ці падрыхтаваны просты грамадзянін да прыняцця такіх адказных рашэнняў? Ці можа, нам патрэбна гадоў з 20 вучыцца адказнаму мысленню на мясцовых рэферэндумах, прыкладам, пра пабудову моста, забарону збору чарнобыльскіх грыбоў і г. д. А для прыняцця Канстытуцыі лепш скарыстацца ведамі юрыстаў, сваіх адукаваных у галіне права прадстаўнікоў, а не вучыцца на ўласных памылках? З такою мэтаю рэдакцыя правяла бліц-апытанне.

**Сяргей ГУРКОЎ, педагог**

**– Спадар Гуркоў, вы пойдзеце на рэферэндум 17 кастрычніка?**

– Пайду.

**– А ці хадзілі вы на рэферэндумы 1995, 1996 гадоў?**

– Хадзіў.

**– Вы лічыце, што добра разбіраецеся ў Канстытуцыйным праве, каб адказна галасаваць па пытаннях Канстытуцыі, разумееце, які будзе вынік ад артыкулаў у іх спалучаным дзеянні, скажам, праз пяць год? Адкуль такая смеласць?**



– Няма смеласці і ў тым, каб не ісці. Правілы гульні ствараюцца ў самых высокіх кабінетах. Бальшыня людзей не ведае, як працуюць законы, і не ўяўляе перспектыву артыкулаў Канстытуцыі, аднак ідзе на ўчасткі. Тут, на маю думку, дзейнічае ўплыў на падсвядомасць і яшчэ нейкі містычны постсавецкі страх. Да таго ж заўжды ёсць спадзея на перамены да лепшага, людзі проста не могуць паверыць, што іх могуць выкарыстоўваць як статыстаў.

**– Можа, лепш забараніць такія рэферэндумы? Прыкладам, створыцца нейкая Грамадская ініцыятыва за забарону рэферэндумаў на падставах недахопу ў насельніцтва юрыдычных ведаў...**

– Калі б мая воля, я ўвёў бы адукацыйны цэнз: на выбары дапускаюцца толькі тыя, хто мае вышэйшую адукацыю.

**– Гэта будзе вельмі несправядліва Любы цэнз прыводзіць да напружанасці, калатні, у рэшце рэшт, да грамадзянскай вайны. І хіба рэдкасць, што адзін з трыма ВНУ, а іншы з 5 класамі маюць аднолькавы розум.**

– Інтэлектуальны цэнз неабходны. Гэта адзіна надзейны паказчык.

**– А як астатнія адрэагуюць, тыя, каму жыццё не дазволіла скончыць ВНУ?**

– Будуць імкнуцца вучыцца. У дадатак – падымецца прэстыж адукацыі

**Алесь Баршчэўскі, пісьменнік, педагог, былы дэпутат Вярхоўнага Савета:**



– З вопыту ўласнай працы ў Вярхоўным Савеце на пачатку 90-х гадоў добра ведаю, як прабіваўся «Закон аб рэферэндуме». Я і мае калегі былі рашучымі праціўнікамі рэферэндумаў, бо на іх 98 працэнтаў удзельнікаў не ведае, за што галасуе. Значыць, ідзе маніпуляцыя грамадскай думкай. Павінна быць ясная фармулёўка пытання, а ў нас на трох рэферэндумах такога не было. Зараз на такі рэферэндум, які ініцыяваў Лукашэнка, тэарэтычна можна паставіць пытанне «Вы за 2 тэрміны прэзідэнцтва для адной асобы ці за колькі заўгодна?» Дзеючыя Выбарчы кодэкс і «Закон аб рэферэндуме» не дазваляюць ставіць канкрэтнае пытанне па асобе. Прыкладам, пад словамі «першы прэзідэнт», якія гучаць у пытанні, па якім Лукашэнка хоча «параіцца» з народам, разумеецца канкрэтная асоба. Гэта строга забаронена. Згодна з любым правам – нашым, сусветным, рымскім, германскім – ніякія асабістыя пытанні на рэферэндум не выносяцца.

У прынцыпе рэферэндум магчымы толькі тады, калі ёсць развітая альтэрнатыўная сістэма сродкаў масавай інфармацыі. Калі ж ёсць манапалізацыя СМІ, асабліва электронных, рэферэндум не павінен падавацца як волевыяўленне народа.

**Валянцін СТЭФАНОВІЧ, юрыст:**



– У Беларусі Канстытуцыю ў 1994 годзе прыняў Вярхоўны Савет. Працу па распрацоўцы галоўнага закону краіны вяла камісія пры Вярхоўным Савеце, у якой працавалі спецыялісты ў галіне Канстытуцыйнага права. Кіраўніком камісіі быў старшыня Вярхоўнага Савету Мечыслаў Грыб.

На рэферэндум 1996 году было вынесена вельмі складанае пытанне. Яно не гучала так проста, як сёлетняе. Фактычна тады стаяла пытанне аб прыняцці Канстытуцыі ў новай рэдакцыі. І калі людзі адказвалі: «Так, прымаем», сумняваюся, што яны ўсведамлялі, за якія змены яны галасуюць. Спецыялістам было бачна, што новая рэдакцыя Закону фактычна разбурае тую сістэму ўлады і тых механізаў кантролю і супрацьвагаў, якія былі закладзеныя ў Канстытуцыі. Касавалася сістэма, калі кожная галіна ўлады кантралявала адна адну.

Ёсць краіны, якія традыцыйна праводзяць шмат рэферэндумаў, як напрыклад Швейцарыя. У Ірландыі на рэферэндуме пыталіся «Дазваляць ці не дазваляць аборты ў краіне?»

З аднаго боку, рэферэндум – акт прамой дэмакратыі. Людзі самі галасуюць за тое, чаго яны хочуць, ці супраць таго, чаго яны не хочуць. Але ў гэтай справе многае залежыць і ад таго, ці з'яўляецца грамадства носьбітам дэмакратычных каштоўнасцяў. Таксама ёсць залежнасць ад агульнага ўзроўню адукацыі.

Гэта справядліва, што ўлада запытваецца ў людзей наконт таго ці іншага. Але рэферэндумы вельмі часта выкарыстоўваюць таталітарныя рэжымы як сродак маніпуляцыі грамадзянамі. Вынікі галасавання рэжымы выкарыстоўваюць у якасці доказу сваёй легітымнасці. Як прыклад можна прывесці рэферэндум у Іраку пры Садаме Хусейне.

У дэмакратычных краінах перад рэферэндумам можна пачуць самыя розныя меркаванні. Праводзяцца публічныя дэбаты, куды запрашаюць носьбітаў рознай думкі. Так было падчас рэферэндумаў у суседніх з Беларуссю краінах, калі там вырашалася пытанне ўступлення ў Еўрасаюз. А ва аўтарытарных краінах, дзе пануе толькі адзін погляд, грамадзяне не маюць магчымасці даведацца пра нейкія іншыя меркаванні. Праводзіцца прапаганда, падчас якой прама гаворыцца, як трэба адказваць на пытанні.

Наконт пытанняў, якое вынесена на сёлетні рэферэндум, існуе некалькі пунктаў гледжання. Я лічу, што ў дадзеным выпадку прысутнічае два пытанні ў адным. Прычым, першая частка не носіць ніякага юрыдычнага сэнсу. Пачынаючы са словаў «першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь...». Такога юрыдычнага тэрміну не існуе. «Першы прэзідэнт» – гэта хутчэй нейкі грамадскі, народны выраз. Тое ж самае можна сказаць і пра пастаноўку пытання: «дазваляеце ці не дазваляеце?».

Юрыдычную сілу і сэнс мае другая частка: «ці прымаеце вы Канстытуцыю ў наступнай рэдакцыі...?». У выпадку станоўчага адказу другая частка цалкам касуе першую. Калі людзі прагаласуюць за змены ў Канстытуцыі, прыбярэцца абмежаванне ў тэрмінах прэзідэнцтва, то і дазволу запытвацца не трэба. Таму, я лічу, што першая частка мае выключна псіхалагічнае, папулісцкае значэнне. Само пытанне гучыць не карэктна.

Акрамя таго, у арт. 112 Выбарчага кодэксу напісана, што пытанне абрання прэзідэнта і пазбаўлення яго паўнамоцтваў на рэферэндум выносіцца не можа, таксама як і пытанні тэрытарыяльнай цэласнасці краіны. Тым не менш Міністэрства юстыцыі і Вярхоўны суд выказаліся, што ўсё законна.

**Таццяна РАВЯКА, журналіст:**

**– Спадарыня Таццяна, вы хадзілі галасаваць хоць на адзін рэферэндум?**

– Хадзіла.

**– І можаце растлумачыць, прыкладам, сэнс вехняй палаты Нацыянальнага сходу?**



– Змагу. І на гэты рэферэндум пайду абавязкова, бо ён скіраваны на кардынальныя змены Канстытуцыі і, адпаведна, грамадскага жыцця. Па закону ўсе фармулёкі і пытанні, якія выносяцца на рэферэндум напачатку павінны быць узгодненыя ў Палаце прадстаўнікоў і ў Канстытуцыйным судзе. Гэта не было зроблена. Вынікі галасавання значна паўплываюць на жыццё людзей, таму ад карэктнасці фармулёўкі пытання залежыць шмат. Фактычна гэта два пытанні ў адным: пра асабісты ўдзел у выбарах Аляксандра Лукашэнкі і пра папраўкі ў Канстытуцыю. Але пры гэтым людзям нават не паведамляюць, што мяняецца Канстытуцыя, асноўны закон краіны. Не прапісана, як зараз гучыць гэты артыкул, у які будуць ці не будуць уносіцца праўкі. У такой сітуацыі людзям вельмі цяжка разабрацца і зразумець, што ад іх хочуць. Атрымліваецца, што ідзе размова толькі пра канкрэтную асобу, а Канстытуцыя апынулася на другім месцы. Людзі павінны ведаць, што за сабой нясуць гэтыя змены. Прэзідэнты ёсць і будуць, бо жыццё не кончыцца, а Канстытуцыя на краіну адна! Пра гэта замоўчваецца. Уся ўвага надаецца толькі аднаму чалавеку.

Праблема таксама і ў тым, што нашыя людзі маюць недастаткова прававых ведаў. Яны не ведаюць свае правы і абавязкі, якія ім гарантуе Канстытуцыя. Людзей трэба адукоўваць, праводзіць буйныя асветніцкія праграмы дзеля таго, каб у будучыні не стваралася сітуацый, калі ўлада проста выкарыстоўвае народ.

**Станіслаў Жыгорскі, дызайнер:**



– Я лічу, што ў канкрэтных умовах Беларусі найлепшай формай дзяржаўнага ладу была б асвечаная манархія, такога, скажам, кшталту, як у Нарвегіі. Спадчынная ўлада добрая тым, што ніхто не можа прэтэндаваць на вышэйшую пасаду. Кароль ці каралева (можна назваць сучасна – «місіс Беларусь», Галоўны Беларус) мае паўнамоцтвы гаранта канстытуцыі. І на гэтым – усё. Міністры прызначаюцца, парламент выбіраецца - і людзі жывуць без дурных амбіцый. Калі хто нацэльваецца на чужыя кампетэнцыі – місіс Беларусь мае магчымасць сказаць яму «асадзі назад», калі не хочаш сустрэцца з маёй гвардыяй (прыгожа апрануты АМАП). Але дзе ўзяць такую манархіню, якая мела б не толькі розум, але і адпаведнага кшталту кроў, каб на вышэйшую пасаду не лезлі хто захоча. Запрасіць - варагаў. Якога новага Рурыка са скандынаваў.

**– А вы, спадар Станіслаў, хадзілі хоць на адзін рэферэндум?**

– Было. Хадзіў галасаваць супраць захавання СССР і на рэферэндум, калі ўлады «кансультаваліся» з народам адносна непатрэбнасці беларускай мовы і змены нацыянальнай сімволікі. Афіцыйныя вынікі падказалі мне, што лепш пазбегнуць удзелу ў акцыях, фінал якіх вядомы, як прыкладам, рамана «Анна Каренина».

**Алег ТРУСАЎ, навуковец, былы дэпутат Вярхоўнага Савета:**



– Унашай краіне праходзіла некалькі рэферэндумаў, першы – гарбачоўскі – на тэму быць ці не быць СССР. Другі быў датычны мовы і сімволікі. Трэці – самы складаны, бо фактычна прымалі новую Канстытуцыю. Вярхоўны Савет высунуў свой праект, прэзідэнт - свой. Галасавалі людзі не за артыкулы, а па сваіх адчуваннях, адны. атрымалася, за Лукашэнку, іншыя – за Шарэцкага. Гэта быў самы, на маю думку, абсурдны рэферэндум. Цяперашні рэферэндум самы канкрэтны і зразумелы: ці за пажыццёвае прэзідэнцтва першага прэзідэнта, ці за два тэрміны як нормы беларускай Канстытуцыі. Усе буйныя аналітыкі лічаць рэферэндум з такім пытаннем незаконным. Але і раней нельга было выносіць на рэферэндум пытанне аб мовах. Аднак - вынеслі.

Не маючы вопыту, не асэнсоўваючы наступстваў, удзельнікі рэферэндумаў у выніку атрымоўваюць тое, чаго не чакаюць. Сусветная практыка паказвае, што лепш за ўсё, калі Канстытуцыю распрацоўвае і прымае Канстытуцыйны сход, нават не парламент, каб дэпутаты не прымалі пад сябе. Наогул у свой час апазіцыя ў Вярхоўным Савеце была супраць прэзідэнцкай формы праўлення. У невялікіх краінах прэзідэнцкая форма праўлення вядзе як мінімум да аўтакратыі. У вялікіх федэратыўных дзяржавах пасада прэзідэнта мае сэнс, бо там моцныя мясцовая ўлада, сенат. Таму ўсенароднае галасаванне, тым больш у такіх умовах, як у нас, нічога не адлюструе. Трэба прымаць распрацоўкі юрыстаў, а не па прасьбе асобы неадукаванымі ў канстытуцыйным праве грамадзянамі.

**Віктар Івашкевіч, журналіст:**

**– Ці хадзілі вы, спадар Івашкевіч, на рэферэндумы 1995 і 1996 гадоў**

– Хадзіў і галасаваў.

**– Вы лічылі сябе дастатковым знаўцам Канстытуцыйнага права?**

– Я галасаваў супраць.

**– Гэта не важна.**



– Справа ў тым, што грамадзянін павінен выконваць свае грамадзянскія абавязкі.

**– Ну а калі ён не разумее, што будзе наступствам? Ну скуль вы ведаеце, як працуюць артыкулы Канстытуцыі?**

– Сам я не ведаю, але ў нашай партыі БНФ ёсць спецыялісты, камісія, эксперты. Кіраўніцтва партыі звяртаецца да іх, яны вывучаюць, распрацоўваюць рэкамендацыі. Я – сябра партыі і галасую адпаведна рэкамендацыяў як сябра партыі.

**– Гэта значыць, вы робіце тое, што вам прадыктавала партыя?**

– Не, мне не прадыктавала партыя. Я сам выбраў кіраўніцтва гэтай партыі, каб яна ў палітычным плане давала ацэнкі, давала дапамогу разабрацца ў сітуацыі

**– Але ж рэферэндум - не калектыўнае галасаванне. Вы заходзіце ў кабіну і павінны прыняць асабістае рашэнне. Мо, вашы спецыялісты памыліліся? Мо, наогул рэферэндумы па Канстытуцыі не патрэбныя?**

– У прынцыпе Канстытуцыю павінен прымаць Устаноўчы Сход, ёсць сусветная практыка такіх працэдураў.

**– Але ў нас калі народ прыняў у 1996 годзе Асноўны Закон, то толькі народ і можа адмяніць. Не скажыце ж вы людзям, што яны ні чорта не разумееюць у Канстытуцыйным праве, што яны для гэтага неадукаваныя і павінны выбраць разумных і тых, хто навучаны.**

– Можна сказаць па-добраму. Выбірайце юрыстаў, няхай год папрацуюць і зробяць разумна.

**– На гэты рэферэндум вы пойдзеце?**

– Так.

**– Усё ж лічыце, што дастаткова дасведчаны? Ці зноў прагаласуеце па рэкамендацыях?**

– Дык я супраць зменаў у артыкулы.

**Гутарыў Кастусь ТАРАСАЎ**

# Царква і сродкі масавай інфармацыі

***Перадвыбарная кампанія ў любой краіне дазваляе выразна ўсьвядоміць вялікую ролю сродкаў масавай інфармацыі. Так званая «Чацьвёртая ўлада», якую яшчэ часам называюць «мэдыякратыяй», фармуе лідэраў, палітыкаў, а дэпутаты робяцца «статыстамі» СМІ. Існуе думка, што з дробнага чыноўніка мас-мэдыі могуць зрабіць геніяльнага кіраўніка дзяржавы, а белае выдаць за чорнае.***

***А як Царква ставіцца да сродкаў масавай інфармацыі? Ці скарыстоўвае іх у мэтах эвангелізацыі й катэхізацыі? Як яна ўспрымае камэрцыйны рэклямна-забаўляльны характар сучасных мэдыяў?***

Царква ў асноўным ставіцца да мас-мэдыяў прыхільна й добразычліва. Яна бачыць той станоўчы патэнцыял, які ўяўляюць сабою радыё, тэлебачаньне, інтэрнэт, ня кажучы пра фільмы і друкаваныя выданьні. Дзякуючы спадарожнікам і інтэрнэту таксама рэлігійная інфармацыя і навучаньне даходзіць да людзей па ўсім сьвеце. Такой магчымасьці прамаўляць да мільёнаў людзей па тэлебачаньні ня меў Ісус Хрыстос, і Апостал Павал ня меў магчымасьці пісаць свае лісты з дапамогай электроннай пошты.

У пасланьні з нагоды сёлетняга Дня сродкаў масавай інфармацыі Папа Ян Павал II працытаваў словы Ісуса Хрыста: «Што кажу вам у цемры – кажэце пры сьвятле, і што на вуха чуеце – прапаведуйце з дахаў». (Мац.10, 27).

У наш час амаль на кожным даху бачым антэны і перадатчыкі, які пасылаюць і прыймаюць безьліч самай рознай інфармацыі. Трэба зрабіць усё магчымае, каб сярод гэтага вяшчаньня чутнае было Божае Слова. «Прапаведаваць веру з дахаў» азначае ў наш час пашыраць слова Ісуса ў дынамічным сьвеце мас-мэдыяў і зь іхнай дапамогай», – сказаў Папа Ян Павал II.

У дакумэнце «Папскай Рады ў справах сродкаў масавай інфармацыі» гаворыцца: «Рэлігійнасьць многіх людзей узбагачаецца дзякуючы СМІ. Яны зьяўляюцца крыніцай навінаў і інфармацыі пра падзеі, ідэі ды асобы з рэлігійнага жыцьця, а таксама служаць прыладай эвангелізацыі й катэхізацыі».

Згодная з гэтым і Праваслаўная Царква. У «Асновах сацыяльнай дактрыны РПЦ» гаворыцца: «Сродкі масавай інфармацыі адыгрываюць у сучасным сьвеце ўсё большую ролю. Царква з павагай ставіцца да працы журналістаў, пакліканых пастаўляць шырокім слаям грамадзтва своечасовую інфармацыю аб тым, што адбываецца ў сьвеце, і арыентаваць іх у цяперашняй складанай рэальнасьці. Пры гэтым важна памятаць, што, інфармуючы гледача, слухача і чытача, трэба грунтавацца ня толькі на цьвёрдай прывязанасьці да праўды, але й на дбайнасьці аб маральным стане асобы і грамадзтва. Гэта ўключае ў сябе й раскрыцьцё станоўчых ідэалаў, і барацьбу з пашырэньнем зла, граху і заганаў. СМІ, які маюць вялікі ўплыў на аўдыторыю, нясуць вялікую адказнасьць за выхаваньне людзей, асабліва маладога пакаленьня. Журналісты й кіраўнікі СМІ павінны памятаць пра гэтую адказнасьць».

У пасланьні «Сродкі масавай інфармацыі і сям'я: рызыка й багацьце» Ян Павал II перасьцярог, што СМІ могуць вельмі нэгатыўна ўплываць на сям'ю й грамадзтва. Яны неаднойчы прапагандуюць скажоны вобраз сям'і, рэлігіі й маралі.

Вельмі крытычна выказаўся пра сучасныя СМІ праваслаўны публіцыст, рэдактар часопісу «Расейскі Дом» Аляксандар Крутаў. Ён лічыць, што мас-мэдыі – «чацьвёртая ўлада» – ператвараюцца ў першую ўладу. Яны прэтэндуюць на валоданьне душамі людзей, фармуюць погляды, густы, прыярытэты, попыт і новую мараль. Крутаў лічыць, што СМІ, асабліва тэлебачаньне, стала магутным разбуральнікам маральнага апірышча грамадзтва.

Этыка, якую плянамерна і пасьлядоўна фармуе тэлебачаньне, пабудованая на анты-хрысьціянскіх прынцыпах. Гэта агрэсія, культ жорсткай сілы – «дабі ўпаўшага, адштурхні слабога» – гвалт, развал сям'і й распуста, адсутнасьць спагады для чужога гора. Галоўнае – агаломшыць, шакаваць гледача, выклікаць у яго нізкія жарсьці й думкі. Мільёны людзей захапляюцца фіктыўнымі лёсамі герояў прымітыўных сэрыялаў, зоркамі рок-музыкі, а моладзь бярэ прыклад з бандытаў, якія на экране ператвараюцца ў станоўчых герояў – лічыць Аляксандар Крутаў.



Кіраўнікі тэлекампаніяў любяць паўтараць, што ніхто нікога не прымушае глядзець тое, што супярэчыць ягоным перакананьням. Гэта праўда. Аднак насамрэч гледачы маюць невялікі выбар. Перакіньце 10 тэлеканалаў, і вы ўбачыце прыблізна на 5-ці зь іх стралянiну або гвалт, а на астатніх – сэрыялы, ток-шоу або навязьлівую рэкляму.

У дакумэнце Папскай Рады адзначаецца, што, паводле Хрыста, міжчалавечыя зносіны – гэта маральны акт. «Ад лішніцы сэрца вусны маўляюць. Кажу ж вам, што за кожнае марнае слова, якое вымавяць людзі, дадуць яны адказ у дзень судны. Бо паводле слоў сваіх апраўдаваесься, і паводле слоў сваіх асудзісься». (Мац. 12, 36-37).

Хрыстос строга асуджаў усемагчымы дрэнны ўплыў на іншых людзей. «Хто спакусіць аднаго з малых гэтых, таму лепей было б, каб павесілі яму на шыю жарон і кінулі ў мора». (Марк. 9, 42.) Хрыстос пасьлядоўна патрабаваў ад вучняў шчырасьці і праўдзівасьці, асуджаў крывадушнасьць і несумленнасьць. «Хай будзе слова ваша «так–так, «не–не», а што звыш гэтага, тое ад ліхога». (Мац. 5,37).

«Служба чалавеку, фармаваньне чалавечай супольнасьці заснаванай на салідарнасьці, справядлівасьці й любові, пашырэньне праўды пра чалавечае жыцьцё і ягонае канчатковае зьдзяйсьненьне ў Богу – усё гэта было і будзе сутнасьцю маралі ў сродках масавай інфармацыі» – гаворыцца ў дакумэнце Папскай Рады ў справе СМІ. «Таму, адкінуўшы хлусьню, гаварыце праўду бліжняму свайму, бо мы часткі цела адзін аднаму... Ніякае брыдкае слова хай ня выходзіць з вуснаў вашых, а толькі добрае, на будаўніцтва ў веры, каб яно давала мілату слухачам». (Эф. 4,25-29).

Доступ цэркваў да СМІ ў розных краінах – розны. Калі ў іх няма свайго тэлеканалу ці радыёстанцыі, яны ня маюць вялікага ўплыву на зьмест вяшчаньня. Кіраўнік аддзелу зьнешніх царкоўных зносінаў Маскоўскага Патрыярхату Мітрапаліт Кірыл выказаў незадаволеньне тым, як большасьць расейскіх СМІ падаюць інфармацыю пра жыцьцё РПЦ. На думку Мітрапаліта, зашмат увагі надаецца абрадавым пытаньням. «У выніку ў вонкавага назіральніка можа скласьціся ўражаньне, што праваслаў'е – гэта фарбаваныя яйкі, мужчыны з даўгімі валасамі, нейкія дзіўныя людзі, якія плюхаюцца ў палонцы, і гэтак далей».

Што тычыцца шматканфэсійнай Беларусі, дык розныя рэлігійныя арганізацыі асуджаныя на тое, што скажуць пра іх дзяржаўныя СМІ, як прадставяць і пакажуць іх. Яны могуць стварыць у грамадзтве самы станоўчы або самы нэгатыўны вобраз той ці іншай царквы, разрэклямаваць адну і прамаўчаць саму наяўнасьць іншай.

З пытаньнем «ці дастаткова і аб'ектыўна асьвятляецца ў беларускіх СМІ рэлігійнае жыцьцё ў краіне?» мы зьвярнуліся да некалькіх чалавек. Вось што адказаў мастак і праваслаўны вернік Аляксей Марачкін:

«Пакуль гульня йдзе ў адны вароты. Калі браць пад увагу інфармацыйную прастору, то перавага аддаецца Праваслаўнай Царкве, фактычна прамаскоўскай. Прыемна, што ёсьць і каталіцкія перадачы, прычым па-беларуску. Улада й кіраўнік дзяржавы гавораць пра тое, што ў нас усе маюць свабоду, ніхто нікога не дыскрымінуе, але ж абсалютна не чуваць пра тую ж татарскую або пратэстанцкія абшчыны. Гэта ж было б цікава. Улады тлумачаць гэта тым, што праваслаўных у краіне найболей. У Горадні адбываецца фэстываль усіх нацыянальнасьцяў, і там называюць вялікую лічбу розных меншыняў. Усе выступаюць у сваіх нацыянальных строях, танцуюць і сьпяваюць па-расейску, але на самой справе пра іхныя рэлігіі, веру мы недастаткова ведаем».

Згодны з гэтым музыка, прадстаўнік беларускіх габрэяў Аляксандар Памідораў. Неінфармаванасьць, замоўчваньне і нават абразьлівыя вылазкі адных супраць другіх – гэта ягоная характарыстыка сытуацыі:

«Даволі аднабакова асьвятляецца рэлігійнае жыцьцё, але калі глядзець у комплексе, можна нават сказаць, што амаль не асьвятляецца. Простаму чытачу цяжка даведацца, напрыклад пра тое, як жывуць татары, габрэі, якія-небудзь канфэсіі, якіх лічаць сэктамі, нягледзячы на тое, што, напрыклад, «Сьведкі Яговы» афіцыйна прызнаныя. Аднак жыцьцё гэтых абшчынаў – не асьвятляецца.

Людзі не заўсёды ведаюць, калі выпадае тое ці іншае сьвята. Перад Пасхай назіраецца свайго роду паніка: калі ў гэтым годзе Пасха? І гэтак як і ў савецкія часы: нехта больш сьвядомы, хто ходзіць у царкву, распавядзе сваім сябрам пра тое, як, калі і што. Што тычыцца каталікоў і габрэяў, дык тут увогуле сытуацыя такая, нібыта гэта нейкія падпольныя арганізацыі, пра дзейнасьць якіх даведаесься, калі ты непасрэдна прыйдзеш у касьцёл або ў сынагогу. Але ж ня кожны чалавек можа зайсьці ў сынагогу, бо там ёсьць свае правілы, і ня кожнаму раскажуць пра сябе. У іх ёсьць свае законы. Выказваньні ў бок каталікоў гучаць як яўная абраза. Час ад часу нават з вуснаў дзеячоў РПЦ можна пачуць даволі ганебныя словы на адрас каталікоў, і пры тым у сродках масавай інфармацыі».

Ці ў сытуацыі, калі галоўныя мас-мэдыі – прыватныя або дзяржаўныя, ці можа Царква неяк узьдзейнічаць на іх? Пісьменьніца Антаніна Хатэнка лічыць, што прынамсі ў беларускіх рэаліях гэта немагчыма.

«Я не ўяўляю сабе мэханізм гэтага ўзьдзеяньня, – кажа Антаніна Хатэнка. – Сродкі масавай інфармацыі, асабліва электронныя мэдыі – самі сабе закон. Праўда, над імі ёсьць дзяржава. Калі б усім давалі доступ да эфіру або запрашалі прадстаўнікоў розных цэркваў, маўляў, абмяркуйце, пагаварыце – што адбываецца, што прапагандуецца ў дзяржаве, але ж гэтага няма. Напэўна, гэта было б няблага, але ў нас ізноў гэта была б прэзэнтацыя толькі праваслаўнай канфэсіі зь ейным «ісьцінна рускім» поглядам на ўсё. Найлепш, каб была свая нацыянальная царква, якая мела б сваю пазыцыю, абараняла б нацыянальныя інтарэсы, нацыянальную, традыцыйную мараль. Гэта была б іншая справа».

Ва ўмовах свабоды слова ўмяшаньне ў зьмест праграмаў СМІ з боку Царквы, нават з самых высакародных меркаваньняў – недапушчальнае. Ва ўмовах дзяржаўных СМІ ў недэмакратычнай дзяржаве яно абмежаванае. У кожным разе, Царква нязгодная з тым, што свабода СМІ раўназначная безадказнасьці. Яна супраць цэнзуры, але за тое, каб СМІ разумна і адказна карысталіся сваёй вялізнай духоўнай уладай.

**Кастусь БАНДАРУК**
**Радыё Свабода**

# Горасная здань мінскай ратушы



Вельмі добра, што на плошчы Свабоды аднавілі будынак мінскай ратушы. Плошча стала больш цікавая. Праўда, тое, што некаторыя называюць будынак сімвалам мінскага самакіравання – рамантычны вымысел. Тым болей мала адпавядае праўдзе, што менавіта з прычыны такой сімволікі яна была зруйнаваная на загад рускага цара. Гэта ўжо чыстая «апазіцыйная» казка ў стылістыцы паважанага мной Зянона Пазьняка. На час яе разбурэння ў 1850-я гады самакіравання ў Мінску не было ўжо найменш гадоў шэсцьдзесят. Пра яго проста забыліся, і нічога гэты будынак не мог сімвалізаваць. Усё насельніцтва Мінска ў той час не пераўзыходзіла дзесяць тысяч жыхароў разам з расійскім гарнізонам. Ды варта ўлічыць, што палову сталых менчукоў складалі габрэі, якімі кіраваў кагал і, зразумела, не ў ратушы. Знеслі будынак, па-першае, з прычыны састарэласці, а па-другое, са страху, бо там многія бачылі здань Валадковіча, якая ў цёмныя ночы хадзіла вакол будынка ці гадзінамі стаяла на ратушным двары.

Узгадаць пра гэта мяне прымусілі чуткі, што здань Валадковіча вярнулася ў адноўлены будынак – і зноў прытулілася на памятным для яе месцы. Нядаўна здань бачылі ў падземнай залі, зазірнуць у якую дазваляе шкляны калпак, узведзены якраз на тым месцы, дзе некалі Валадковіч быў расстраляны на прысуд Трыбунальскага суда.

Мая прабабка добра ведала гэтую гісторыю, бо ў кожнай карэннай мінскай сям`і яе перадавалі ад дзедаў дзецям. Ды і напісана пра Валадковіча нямала. Узгадваў пра яго Адам Міцкевіч у «Пане Тадэвушу, а ў наш час друкаваліся артыкулы ў газетах пра гэтую даўнюю падзею. Але лепшым творам застаецца апавяданне Ігната Ходзькі «Успаміны квестара». Вельмі цікавы артыкул прысвяціў яму магілёўскі даследчык Сяргей Даніленка, на які лічу вартым тут спасылацца.

Постаць Міхала Валадковіча, які быў пакараны смерцю ў 1760 годзе ў Мінску за абразу Трыбунала, – цалкам гістарычная. Ён належаў да вядомага беларускага роду Валадковічаў, які валодаў землямі ў Мінскім і Навагрудскім ваяводствах.

Валадковіч быў сябрам з дзяцінства і прыхільнікам нясвіжскага князя Караля Радзівіла, званага Пане Каханку. Валадковіч вылучаўся гняўлівасцю, жорсткасцю і схільнасцю да самавольства. «Дык калі ці то з якога партыкулярнага ранкору, – напісаў Ходзька, – ці то па сплананай імпрэзе князь хацеў каму дапячы, Валадковіч заўсёды быў гатовы і спаўняў да ёты намеры і волю князя, дадаўшы яшчэ і свайго». Пане Каханку меў не на шмат лепшы за свайго сябру нораў і «пры жыцці свайго бацькі, князя Міхала Рыбанькі, гетмана, быў у той час яшчэ мечнікам літоўскім. Шалёная гэта была змоладу галава, пакуль перабрадзіла віно. Калі, бывала, пачне гудзець, а праўду кажучы, шалець па Нясвіжу, то Рыбанька загадваў падымаць масты, каб ён не трапіў у замак». Аднак да непрыемнасцей, у якія патрапіў яго сябра, Пане Каханку дачынення не меў, бо Валадковіч меў ахвоту да дарункаў Бахуса: «...палюбіў ён сабе часта напівацца ў дугу. Тады ён станавіўся такім вар'ятам, што трэба было альбо яму дапамагаць, альбо ўцякаць». Адной з праяў гэтага вар'яцтва было імкненне Валадковіча выклікаць на бой д'ябла. Д'ябал прыняў выклік Валадковіча, толькі той пра гэта не здагадваўся, калі вырашыў стаць «дэпутатам трыбунала на рускую кадэнцыю, якая адбывалася ў Мінску».

Валадковіч зрабіўся больш сур'ёзным, працягваў банкетаваць, але «не шалеў і не гайдамачыў» і быў нават абраны трыбунальскім падскарбнікам. Маршалкам трыбунальскім у той час быў стараста пінскі і крайчы літоўскі граф Міхал Сапега, а віцэ-маршалкам – стараста панінскі Міхал Марыконі. Валадковіча брала крыўда, што ён сядзіць ніжэй за «нейкага» Марыконі, бо лічыў, што літоўскаму пану абразліва прыніжацца перад «італьянцам і чужаземцам». Валадковіч не саромеўся гэтыя меркаванні выказваць гучна, але Марыконі быў чалавекам «абачлівым і памяркоўным», таму на гэтыя словы не зважаў.

Але аднойчы ўвечары Валадковіч вярнуўся раз'юшаны з суда і «пачаў піць па-даўняму, смяртэльна праклінаючы ўвесь свет, склікаючы і выклікаючы ўсіх д'яблаў з усяго пекла». Набліжаныя спрабавалі супакоіць яго, але ён сабраў кампанію, з якой п'янстваваў усю ноч і наступны дзень. Увечары ён вырашыў выбірацца на трыбунал. І хоць яго набліжаныя трымалі яго за адзенне, за рукі, за пас, ён адштурхнуў іх і выправіўся з хаты: «Пайду, хоць бы мяне д'яблы забралі! Пайду і навучу таго італьянца, хто я і хто за мною!».

У час бойкі ў мінскай ратушы, дзе судзіў трыбунал, імкнучыся забіць Міхала Марыконі, Валадковіч параніў руку пану Длускаму, але «горш за ўсё – адсечаны кавалак рукі ад крыцыфіксу срэбранага Пана Езуса ляжаў на стале». Злачынец быў схоплены. Пасля паспешлівага начнога суда без адваката быў выдадзены дэкрэт, паводле якога злачынца быў асуджаны на смерць «на горла»

У злачынцы яшчэ заставаліся спадзяванні на дапамогу Радзівіла, ды і не ўся шляхта была ўпэўненая ў тым, што прысуд будзе здзейснены: «Адны казалі: «Ён прапаў! Трыбунальскі дэкрэт - апелюй адно да Пана Бога! Паляціць галава!» Другія казалі: «Трыбунал з дэкрэтам, а Радзівіл з мушкетам! Хутка ўбачым госця. Ён выцягне яго з гэтае казы, а ўжо ў Радзівіла яго і сам д'ябал не схопіць». Іншыя ж казалі, што за пашкоджанне крыцыфіксу павінен будзе па адпушчэнне грахоў пешкі ў Рым ісці, а іншыя, што павінен будзе біцавацца ў бернардынаў. Казалі таксама: «Шмат каго ён сек, няхай жа паспытае гэтага ж самага дэлікатэсу!» .

Перад пакараннем да Валадковіча прывялі ксяндза, «той паставіў крыцыфікс на стале ды перад крыцыфіксам паставіў святы віятык, Валадковіч глянуў на Укрыжаванага, дык прыгадаўся яму, відаць, на памяць ягоны excess: пашкоджанне судовага крыжа; упаў ён на калені: – О Хрысце Езус! – закрычаў плачучы, – я саграшыў! Смяртэльна зграшыў! Але шкадую ўсім сэрцам, шкадую ўсёю душою! Даруй грахі мае, і калі ўжо мушу смерцю заплаціць за грахі, дай мне, перадусім, стаць перад Табою з чыстым сумленнем. Ойча! Спавядай мяне!». Пасля гэтага злачынца «ўкленчыў і трымаў шчырую споведзь за ўсё жыццё».



Падземная заля мінскай ратушы, дзе заўважана здань Валадковіча

У знак «шчырага далучэння да Бога» Валадковіч паціснуў руку пана ротмістра Краеўскага, які павінен здзейсніць прысуд. Яго вывелі на двор. Пасля першага залпа Валадковіч «быў яшчэ жывы і круціўся па зямлі», і унтэр-афіцэру прыйшлося дабіць яго стрэлам з пісталета ў вуха. Ужо толькі пасля, аглядаючы цела, даведаліся, чаму адразу не забілі: ён насіў на грудзях абразок Прачыстае Маці на срэбранай блясе, дык яна тры кулі адбіла ад яго сэрца, і за жупанам іх знайшлі.

Калі ў Мінск ратаваць свайго сябру прыляцеў са сваёй міліцыяй Караль Радзівіл было ўжо позна, прысуд Трыбунальскага суда быў здзейснены, а хуткасць выканання прысуду тлумачылася тым, што якраз і спяшаліся забіць злачынцу да прыезду князя, бо той Валадковіча з-пад варты адбіў бы. А потым схаваў бы ў сваім замку. А ў Радзівілаў войска, як усе ведаюць, было большае, чым у дзяржавы. Радзівіл не забываўся на страту прыяцеля да самай смерці. Нават на смяротным ложку, узгадваючы няшчасці свайго жыцця, назваў найгоршыя: смерць брата, падзелы радзімы і расстрэл Валадковіча. Паколькі Валадковіч быў па натуры помслівы, то і пасля смерці не магла супакоіцца ягоная душа, прыходзіла ў ратушу шукаць сваіх суддзяў, каб з імі расплаціцца. У пазамінулае стагоддзе людзі былі менш атручаны матэрыялізмам, і здань, якую давялося каму-нікаму ўбачыць у двары ратушы, прымушала дрыжэць па начах у боязі якой сустрэчы са знакамітым і хуткім на грэх сябрам Пане Каханку.

Нядзіўна, што здань вярнулася ў свой прытулак. Сённяшнія дасягненні навукі пра тонкія ́энергетыкі ўжо не адмаўляюць існавання прывідаў, як тое панавала ў часы савецкага матэрыялізму. Валадковіч быў вялікі грэшнік, але і суддзі саграшылі, судзячы яго ноччу без абароны, як разбойнікі. Грэшных у гэтым хуткім і несправядлівым прысудзе здань Валадковіча і шукае пасёння. Цяпер зноў жа на тым месцы, дзе ўдарыў па ім залп з шасці мушкетаў.

**Юры БОХАН,**
**мінскі краязнаўца**

# НЕДАРАВАНЫЯ






Папулярныя беларускія гурты звярнуліся да грамадскасці з адкрытым лістом. **«Палац», «Нейра Дзюбель», «N.R.M», Drum Ecstasy, ZET, Pomidor/OFF і выканаўца Зміцер Вайцюшкевіч** даводзяць пра сітуацыю, у якой яны апынуліся пасля выступу на канцэрце 21 ліпеня на плошчы Бангалор у Мінску. Варта нагадаць, што канцэрт ладзіўся палітычнымі партыямі і быў дазволены Мінскім выканкамам. Тым не менш, рэакцыя на падзею была вельмі хуткай. Легендарны «Палац» звольнілі з «Белканцэрта», выступы астатніх музыкаў перасталі гучаць у эфіры радыё і тэлебачання.

Сваё неразуменне сітуацыі, заклапочанасць з нагоды прэсінгу, музыканты выклалі ў лісце: «Нібыта нам звязалі рукі, паставілі «на пальчыкі» і накінулі на шыю пятлю. Нібыта і не павесілі, але і жыццём гэта не назавеш». Радыёстанцыі і тэлеканалы адмаўляюцца даваць нейкія каментары з гэтай нагоды. Магчыма, таму, што яны простыя выканаўцы загадаў. Але хто загадвае ці ў дадзеным выпадку «замаўляе музыку»? Пытанне застаецца без адказу.

Але дакладна вядома, што справа на гэтым не скончыцца. «Мы ведаем, што Міністэрства культуры распрацоўвае новае палажэнне: перад кожным выступам трэба будзе ўзгадняць (альбо «літаваць», як казалі ў савецкія часы) рэпертуар удзельнікаў канцэрта. Прыняцце гэтага палажэння Саветам Міністраў Беларусі – пытанне часу. Пасля гэтага нейкае журы атрымае магчымасць забараняць любыя канцэрты беларускіх рок-гуртоў. Лічым, што гэтыя дзеянні неправамоцныя і супярэчаць прынцыпам свабоды слова», – заяўляюць аўтары ліста.

Мы не палітыкі, але маем грамадзянскую пазіцыю. «Гэтая пазыцыя палягае ў тым, што, напрыклад, на канцэрце БРСМ выступаць мы не будзем ні за якія грошы», – гаворыць Аляксандар Кулінковіч, лідэр гурта «Нейра Дзюбель». Пра «...дзюбелі і іншыя «палацы» сказаў прэзідэнт падчас сваёй прэс-канферэнцыі. Яго словы, на думку назіральнікаў, і сталі прычынай разгорнутай творчай дыскрымінацыі.

**Аляксандар КУЛІНКОВІЧ, гурт «Нейра Дзюбель»:**

– Пасля 21 ліпеня мне патэлефанавалі знаёмыя з радыёстанцый і сказалі, што «быў званок усім дырэктарам радыё». Таксама, я мяркую, званілі на тэлебачанне. Мы б вельмі хацелі даведацца, хто званіў. Размова з кіраўнікамі эфірных установаў была нарэшце таго, што некаторыя групы (спіс дадаваўся) ні ў якім выпадку не павінны з'явіцца ў эфіры. Прычым, як аказалася, гэта тычыцца не толькі нашай музычнай прадукцыі – песняў і кліпаў, але таксама інтэрв'ю і рэкламы. Ва ўсіх групаў, якія падпісалі адкрыты зварот, былі запланаваныя інтэрв'ю на тэлебачанні і радыё. Па нейкіх незразумелых прычынах яны ўсе былі адменены.

**– Што для музыкантаў азначае такая сітуацыя?**

– Напрыклад, «Нейра Дзюбель» і «N.R.M» і так не вельмі часта можна было пачуць у FM-эфіры. Але, напрыклад, «Палац» ці Зміцера Вайцюшкевіча «круцілі» даволі часта. Зараз нават узгадванне гэтых музыкантаў з любой нагоды забароненае. Некаторым гуртам было адмоўлена нават у платнай рэкламе на радыёстанцыях, не кажучы ўжо пра самі песні.

У нас адмяніліся пяць жнівеньскіх канцэртаў. Усе з розных «паважных» нагодаў. Адзін раз адключылі электрычнасць з-за навальніцы. Другі канцэрт не адбыўся з-за кепскай арганізацыі і г.д. Але ніхто не ведае, як усё было на самой справе.

**– Як вы думаеце, гэта было спланавана ці сапраўды збег абставінаў?**

– Вельмі шмат супадзенняў. Факт застаецца фактам. Апошні раз у Мінску мы выступалі 21 ліпеня. Такой вялікай паўзы не было ніколі. Нас не запрашаюць. Маленькія прыватныя клубы баяцца, што іх зачыняць таксама па нейкіх «мэтазгодных прычынах».

Мэта нашага адкрытага ліста – прыцягнуць увагу грамадскасці да таго, што адбываецца. Былі распаўсюджаныя нейкія паперкі са спісамі гуртоў, якія не павінны трапіць у эфір. Адкрыта нам ніхто нічога казаць не хоча. У нас усе залежныя.

**– Якая вашая пазіцыя адносна палажэння аб узгадненні рэпертуару, якое быццам бы мае ўхваліць Міністэрства культуры?**

– Зараз мы дакладна не ведаем, прынятае гэтае палажэнне ці не. Ходзяць чуткі ... Я думаю, што гэта азначае, што будуць забараняць канцэрты тых гуртоў, якія проста некаму не падабаюцца.

У нас, музыкантаў, няма нічога палітычнага. У нас няма палітычных спеваў. Але, пры вялікім жаданні, прычапіцца да тэкстаў можна. Хачу сказаць, што нам далі дазвол на канцэрт 22 кастрычніка ў Мінску. Прадстаўляць тэксты на экспертызу пакуль не патрабавалі.

Вядомая пастанова аб 50% гучання беларускай музыкі ў эфіры рок-музыкантам мала дапамагла. Магчыма, гэта паспрыяла выканаўцам поп-музыкі. У нас не прынята падтрымліваць сваіх выканаўцаў. Хутчэй падтрымаюць расіянаў, хоць яны і не збіраюць залы на сваіх канцэртах.

**– Як вы думаеце, ці зменіцца жыццё беларускіх музыкантаў, якія аказаліся ў «чорным спісе»?**

– Мы даволі цвёрда стаім на нагах. Нас можна пазбавіць магчымасці выступаць, але ў нас ёсць вялікая колькасць прыхільнікаў. І гэта нельга скасаваць нейкімі таямнічымі званкамі і лістамі з міністэрства. Я мяркую, што ў выніку ўсёй гэтай сітуацыі наверсе апынуцца хлопчыкі і дзяўчынкі з даволі сумнеўнай жыццёвай пазіцыяй.

Мы сабраліся і вырашылі, што трэба быць разам, бо ў іншым выпадку ўсіх будуць «вешаць па адным». У нашай заяве няма нічога агрэсіўнага. Мы хацелі давесці да грамадскасці сітуацыю ў якой мы апынуліся. Бо нам трэба трымаць справаздачу перад сваімі прыхільнікамі, тлумачыць, чаму ў нас няма канцэртаў. Зразумейце, што мы – музыканты, і пісаць адкрытыя лісты – гэта не нашая справа. Мы не займаемся палітыкай і не хочам ёй займацца. Але мы маем грамадзянскую пазіцыю як людзі.

**Зміцер ВАЙЦЮШКЕВІЧ, беларускі артыст:**

– Я хацеў запісвацца на студыі дзяржаўнага тэлебачання. Была дамова, што я змагу рабіць гэта за ўласныя грошы. Мне падабаліся тэхнічныя ўмовы, акрамя таго, былі даволі добрыя стасункі з інжынерамі. Але зараз справа спынілася. Мне ніхто нічога не гаворыць, усе апускаюць вочы... Таксама ў ліstападзе я планаваў ладзіць канцэрт у КЗ «Мінск». Мне сказалі туды нават не сунуцца, бо гэта адміністратыўны будынак Упраўлення справамі. Відавочна, што за апошні час ніводнага беларускага канцэрта ў КЗ «Мінск» не адбылося. Выступаць па клубах пакуль магчыма. Таксама планую выступіць 21 кастрычніка ў Доме ветэранаў.

Наконт 21 ліпеня я магу сказаць наступнае. Такіх дазволеных канцэртаў, якія ладзілі палітычныя партыі на працягу апошніх гадоў, было вельмі шмат. Вельмі дзіўная сітуацыя, калі пасля выступу на дазволеным мерапрыемстве мы адчуваем такі ціск. Нас пазды-малі з радыё і тэлеэфіру, скасавалі выступы ў музычных праграмах на БТ. Беларускае тэлебачанне зняло кліп на адну з маіх песень з альбома «Паравіны году». На гэты момант кліп ужо павінны быў быць змантаваны, але справа з незразумелых прычынаў замарудзілася. Сітуацыя вельмі смешна выглядае з таго боку, што нехта спрабуе зрабіць нас папулярнымі такім чынам...

**– Чаму, на ваш погляд, кіраўнікі радыё і тэлебачання не даюць ніякіх каментароў на гэты конт?**

– Зараз людзі баяцца больш, чым сем ці тры гады таму.

**– Музыканты, якія падпісаліся пад грамадскім зваротам, кажуць, што яны «не апазіцыя», але маюць сваю ўласную грамадзянскую пазіцыю. У чым яна палягае?**

– Паколькі мы, як і нашыя слухачы і гледачы, з'яўляемся грамадзянамі Рэспублікі Беларусь, і мы плацім падаткі са сваёй дзейнасці, мы маем права на сваё ўласнае меркаванне. Мой рэпертуар шчыра непалітычны. Калі пачытаць Кандрата Крапіву, якога вывучаюць у школе, напрыклад «Дыпламаванага барана» ці «Ганарыстага парсюка», пры некаторых абставінах зараз і гэта можа стаць «крыміналам»...

Гаворыцца ж, што Беларусь імкнецца наблізіцца да еўрапейскіх каштоўнасцяў. У такім выпадку сітуацыя падаецца яшчэ больш незразумелай і прымітыўнай. Вельмі шмат людзей, якія прыходзяць на мае канцэрты, працуюць у дзяржаўных установах.

**– Чым такая сітуацыя пагражае беларускаму шоу-бізнесу?**

– Як кажуць, «шоу ёсць, а бізнесу някага». Практыка паказвае, што моцныя музыканты праз такія сітуацыі становяцца яшчэ больш загартаванымі. Мы маем пэўны ўплыў на людзей. У кожнага з нас ёсць свае прыхільнікі, якія ведаюць адказы на складаныя пытанні. Вельмі часта гэтыя адказы ў гледача і ў выканаўцы супадаюць ...

**– У лісце напісана, што музыкі аб'ядноўваюцца ў творчую асацыяцыю. Ці не маглі б вы пра гэта распавесці больш падрабязна?**

– Мы яшчэ не вельмі сабе ўяўляем, якой гэтая асацыяцыя павінна быць. Але ёсць наш прынцып – рабіць сваю справу шчыра. Я думаю, што ўсе, хто пад гэтым лістом падпісаліся, аб'ядняныя любоўю да Беларусі, а таксама шчырасцю і адказнасцю за сваю справу.

**Алег ХАМЕНКА, гурт «Палац»:**

– Самае галоўнае для нас – гэта працаваць для нашых слухачоў і гледачоў. Працаваць для тых, хто прыходзіць на нашыя канцэрты. Мы будзем працягваць гэта рабіць. Магчыма, не так актыўна, як у апошнія гады. Зараз мы плануем, што напрыканцы года выйдзе наш новы альбом. Я пакуль не ведаю, як тэхнічна мы здолеем ажыццявіць яго прэзентацыю, паколькі музыка даволі складаная. У новым альбоме будуць выкарыстаныя новыя, вельмі дарагія тэхналогіі.

**– Што для вас з'яўляецца крыніцай натхнення?**

– Радзіма. У прыватнасці беларускі фальклор, а таксама сябры, таленавітыя людзі, якія заўсёды былі побач з намі. Пасля нашага звальнення з «Белканцэрту» ўсе нам званілі, падтрымлівалі. Форум на нашым сайце проста кіпеў. Усё гэта натхняе.

Чатыры гады запар нас чамусьці выкрэслівалі з праграмы «Славянскага базару». Таксама адбывалася і з выступамі на іншых афіцыйных мерапрыемствах. Я гэтага не разумею. Нашая музыка да палітыкі не мае ніякага дачынення. Напэўна, усё адбываецца з-за таго, што мы спяваем па-беларуску... Журналісты надаюць гэтаму нейкую палітычную афарбоўку. На самой справе гэта звычайны патрыятызм і любоў да Радзімы.

Зварот за грамадскасці беларускіх музыкантаў прыцягвае да сябе ўвагу яшчэ і таму, што творчыя людзі традыцыйна далёкія ад палітыкі. Але нашыя таленты маюць дастаткова мудрасці і здаровага сэнсу дзеля супольнага адстойвання свайго права на прафесію. Тым самым яны даюць прыклад усім астатнім – як шукаць праўды, а не толькі славы і папулярнасці. Менавіта гэта і з'яўляецца найвышэйшай творчай матывацыяй.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

# Магія Вілейкі

**Партрэт мастака**

Кожны мастак – асоба, і кожны мае свой шлях у мастацтва, адчувае ўплыў роднасных сабе таленавітых асоб. Гэты шлях можа мець пэўную значную ствральную сімволіку, якая накладае свой адбітак і свае абавязкі на творчасць. Так было ў жыцці мастака Эдуарда Мацюшонка.

Нарадзіўся Эдуард Мацюшонак у 1958 годзе ў вёсцы Мнюта Глыбоцкага раёна на Віцебшчыне. Вёска стаіць на берагах аднайменных возера і ракі. Гэта тыя мясціны, дзе пісаў свае нататкі «Паміж Мнютай і Аутай» наш знакаміты мастак Язэп Драздовіч. Тут ён размалёўваў свае знакамітыя дываны. Некалькі дываноў, размаляваных Драздовічам, захоўваліся і ў цёткі Эдуарда Мацюшонка. Але, не ведаючы каштоўнасці гэтых рэчаў, жанчына памяняла іх на бліскучыя «Тры асілкі». У вёсцы ёсць касцёл. У ім, як высветлілі навукоўцы, быў ахрышчаны будучы беларускі грамадскі дзеяч і выдатны пісьменнік Вацлаў Ластоўскі. Побач з касцёлам знаходзіцца магіла маці Аляксандра Грыневіча. Гэта ўсё важныя складнікі духоўнай атмасферы, непрыкметнай, але вельмі ўплывовай.

Пасля васьмігодкі Эдуард Мацюшонак паступіў у Віцебскі станка-інструментальны тэхнікум. Пасля была служба ў войску. Менавіта там Эдуард Уладзіміравіч сустрэў чалавека, які дапамог раскрыць у ім талент – талент мастака. І таму пасля войска Мацюшонак паступае ў Віцебскі педагагічны інстытут на мастацка-графічны факультэт. Нейкі адбітак на такім выбары пакінулі ягоныя тата і дзед.

– Тата не меў мастацкай адукацыі, але меў тонкі густ. У роднай вёсцы ён зрабіў помнік, прысвечаны загінулым падчас Другой сусветнай вайны. Дзед у імперыялістычную страціў ногі. Але гэта не перашкаджала яму працаваць



у графа – рабіць прыгожую мэблю, – адзначае мастак.

Дзед быў вельмі блізкім чалавекам для Эдуарда Уладзіміравіча. Нездарма сваю дыпломную працу ў інстытуце ён прысвяціў гэтаму роднаму чалавеку, роздуму пра яго жыццё і пра ягоную ролю ў маім жыцці. Карціна называецца «Хлеб».

Па словах мастака, праца яму на той момант удалася. Але карціны магло і не быць. Дзякуючы аднаму выпадку, дакладней чалавеку, палатно з'явілася. Падчас працы над карцінай мастак адчуў, што не можа звесці свае пачуцці і фарбы ў адзінае. Атрымлівалася халодная размалёўка. Тады вялікую ролю адыграў Яўген Васільевіч Антонаў – «мой духоўны настаўнік і выкладчык жывапісу і кампазіцыі». Ён, паглядзеўшы на ўсе намаганні маладога мастака, сказаў так: «Едзь дахаты. Пабудзь у тым асяродку, дзе жыў і працаваў дзед. Папрацуй яго інструментамі. Патрымай у руках усё тое, што дапамагала яму рабіць прыгожую мэблю. І ў тваёй душы павінен з'явіцца колер, што адпавядае тваім пачуццям да гэтага чалавека». Усё так і атрымалася. Карціна была дапісана.

Пасля інстытута Эдуард Мацюшонак разам з жонкай Аленай прыехалі жыць у Вілейку. Чаму менавіта ў Вілейку?

– Мы з Аленай жыць у Віцебску не хацелі. Я чатыры гады правучыўся там у тэхнікуме, затым пяць гадоў у ВНУ. Да службы ў войску я займаўся цяжкой атлетыкай. І падчас службы каля года правёў у Віцебску на розных спартыўных зборах. Таму амаль дзесяць гадоў у горадзе. Нават прапанова застацца выкладчыкам жывапісу на кафедры ў інстытуце не ўтрымала.

Як адзначыў сам мастак, ён не любіць вялікіх гарадоў. У іх нябачна чалавека – усе некуды спяшаюцца.

Выстаўляючы свае карціны ў Вілейцы, ён ведае, што тут шмат ягоных вучняў, знаёмых, якіх цікава паслухаць аб выніках сваёй працы. А ў вялікім горадзе людзі прыходзяць на выставы, каб хуценька прабегчы.

У 1985 годзе пры гарадскім Доме школьніка мастак пачаў весці спачатку гурток, а затым студыю выяўленчага мастацтва. З гэтай студыі ўжо больш за 50 чалавек выбралі мастацтва як сваю прафесію. Сярод іх дызайнеры, архітэктары, мадэльеры...

– У студыі вельмі хочацца працаваць так, каб вучні не адчувалі, што я над імі, а так, нібы мы адно цэлае. Тут я пішу свае карціны і разам працуюць мае выхаванцы. Гэтак як у эпоху Адраджэння майстры і вучні працавалі разам. Атрымоўваецца як жыццё у мастацтве.



У 1986 годзе ў Доме культуры ў Вілейцы прайшла першая выстава мастака. Тут былі прадстаўлены 32 работы – апошнія інстытуцкія і першыя «вольныя працы». За ўвесь час у Вілейцы прайшло пяць персанальных выстаў мастака. Найбольш удалым, на яго думку, быў паказ карцін з серыі «Адзінокія людзі забытых вёсак».

– Гэта роздум пра тых людзей, што ўсё жыццё працавалі на гэтай зямлі, нараджалі дзетак, далі ім адукацыю, а зараз засталіся адны, у пустых вёсках.

Часткова працы з гэтай серыі былі выстаўлены ў Германіі, дзе атрымалі вельмі высокую адзнаку.

Яшчэ была вялікая серыя карцін пад назовам «Бацькаўшчына». Гэтай выставай адчынялася ў 1997 годзе Зала выставаў імя М.Сілівановіча ў Вілейцы. Галоўная думка, што закладалася мастаком у гэтыя карціны, – усё тое, што на нашай роднай зямлі было і засталося, зараз павінна захоўвацца і перадавацца наступным пакаленням. На карцінах адлюстраваны тыя архітэктурныя помнікі, якія, на вялікі жаль, сёння ўжо ўбачыць немагчыма – яны знішчаны.

– Серыя работ пад назовам «Сусвет і людзі» – гэта роздум аб тым, што мы лічым свядома альбо не галоўным у нашым жыцці, як мы выстройваем тыя ўзроўні каштоўнасцей, якія ў канцы канцоў могуць аказацца падманам.

У 2004 годзе ў Вілейцы прайшла пятая персанальная выстава мастака. На ёй былі прадстаўлены карціны з серыі «Кветкі і птушкі».

– Гэта тое пачуццё пяшчоты і волі, да якога імкнецца душа чалавека. Гэта непаўторнасць кожнага дня, якія мы пражываем, і пачуццё часу, які нямоўна струменіцца як той пясок, што перасыпаецца ў пясочным гадзінніку, адлічваючы імгненні, якія пражываеш ты і ўсё наваколле.

Акрамя Беларусі і Германіі карціны Эдуарда Мацюшонка выстаўляліся яшчэ ў Петрапаўлаўску-Камчацкім. Творы яго размешчаны ў асабістых калекцыях у нашай краіне і за яе межамі.

Цікавую гісторыю распавёў мастак пра адну з сваіх карцін, што знаходзіцца сёння ў ЗША.

– Недзе гадоў 8 таму ў Вілейку з ЗША прыязджалі людзі па культурным абмене. І сям'я Браун аднаго разу прыйшла да мяне ў майстэрню, дзе я паказаў свае працы. А ў сям'і малады хлопец Джэмс з'яўляецца студэнтам Акадэміі мастацтваў у Мінесоце, і адна з карцін серыі «Адзінокія людзі забытых вёсак» так спадабалася хлапцу, што я падараваў яе, чым выклікаў ягонае здзіўленне. Ён, пастаяўшы, зняў з шыі фотаапарат і зрабіў мне шыкоўны падарунак. А так як я займаюся яшчэ мастацкай фатаграфіяй, то быў вельмі ўражаны.

Па слядах Эдуарда Уладзіміравіча пайшла і ягоная дачка, якая навучаецца на III курсе таго ж ВНУ ў Віцебску, які скончылі бацькі. Сын Уладзімір, які навучаецца ў 8 класе, таксама любіць маляваць. Але, як адзначыў мастак, настойваць на мастацкай кар'еры сына ён не збіраецца.

Старажытная Вілейка назаўжды прывабіла мастака, і ён адлюстроўвае яе таямнічую магію на сваіх карцінах.

**Сяргей МАКАРЭВІЧ,**
**Вілейка**





# Прамова ў Гродне

## *Урывак з кнігі ўспамінаў Дзяніса Давыдава «Дневник партизанских действий 1812 года»*

Первого декабря явился я к светлейшему в виленской уже квартире... Когда я вошел в залу, одежда моя обратила на меня все взоры. Среди облитых златом генералов, красиво убранных офицеров и граждан литовских я явился в черном чекмене, в красных шароварах, с круглою курчавою бородою и черкесского шашкою на бедре. Поляки шепотом спрашивали: кто такой? Некоторые из них отвечали: «Партизан Давыдов»; но самолюбие мое услышало несколько прилагательных, от коих нахлынула на меня толпа любопытных. Не прошло двух минут, как я был позван в кабинет светлейшего. Он сказал мне, что граф Ожаровский идет на Лиду, что австрийцы закрывают Гродну, что он весьма доволен мирными сношениями Ожаровского с ними, по, желая совершенно изгнать неприятеля из пределов России, посылает меня на Меречь и Олиту, прямо к Гродно, чтобы я старался занять сей город и очистить окрестности оного более чрез дружелюбные переговоры, нежели посредством оружия...

Сборы мои никогда не были продолжительны: взнуздай, садись, пошел, и на рассвете партия моя была уже на половине дороги к Мечечу. В сем местечке мы успели захватить огромный магазин съестных припасов, который я сдал под расписку прибывшему туда командиру Московского драгунского полка, и продолжал путь вдоль по Неману, препоруча авангард мой майору Чеченскому и передав ему наставление, данное мне светлейшим, как обходиться с австрийцами.

Восьмого числа Чеченский столкнулся с аванпостами австрийцев под Гродною, взял в плен двух гусаров и, вследствие наставления моего, немедленно отослал их к генералу Фрейлиху, командовавшему в Гродне отрядом, состоявшим в четыре тысячи человек конницы и пехоты и тридцать орудий.

Фрейлих прислал парламентера благодарить Чеченского за снисходительный сей поступок, а Чеченский воспользовался таким случаем, и переговоры между ними завязались. Вначале австрийский генерал объявил намерение не иначе сдать город, как предавши огню все провиантские и комиссариатские магазины, кои вмещали в себе более нежели на миллион рублей запаса. Чеченский отвечал ему, что все пополнение ляжет на жителей сей губернии и чрез это он докажет только недоброжелательство свое к русским в такое время, в которое каждое дружеское доказательство австрийцев к нам есть смертельная рана общему угнетателю. После нескольких прений Фрейлих решился оставить город со всеми запасами, в оном находившимися, и потянулся с отрядом своим за границу. Чеченский вслед за ним вступил в Гродну, остановился на площади, занял постами улицы, к оной прилегающие, и поставил караулы при магазинах и госпиталях.

Он не преминул также уведомить меня о духе польских жителей города, весьма для нас противном. Нельзя было быть иначе: город Гродна ближе всех больших литовских городов граничил с Варшавским герцогством и потому более всех заключал в себе противников нашему оружию: связи родства и дружбы, способность в сношениях с обывателями левого берега Немана и с Варшавою, с сим горнилом козней, вражды и ненависти к России, - все увлекало польских жителей сего города на все нам вредное. Напротив того, все вообще евреи, обитавшие в Польше, были к нам столь преданы, что, при всей алчности к наживе и корыстолюбию, они во все время отказывались от лазутчества против нас и всегда и всюду давали нам неоднократные и важнейшие известия о неприятеле.

Девятого числа я вступил в город со всею партиею моею. У въезда оного ожидал меня весь кагал еврейский. Желая изъявить евреям благодарность мою за приверженность их к русским, я выслушал речь главного из них без улыбки, сказал ему несколько благосклонных слов и, увлеченный веселым расположением духа, не мог отказать себе в удовольствии, чтобы не сыграть фарсу на манер милого балагура и друга моего Кульнева: я въехал в Гродну под жидовским балдахином. Я знаю, что немногие бы на сие решились от опасения насмешки польских жителей, но я не боялся оной, имев в себе и вокруг себя все то, что нужно для превращения смеха в слезы.

Исступленная от радости толпа евреев с визгами и непрерывными ура! провожала меня до площади. Между ними ни одного поляка не было видно, не от твердости духа и не от национальной гордости, ибо к вечеру они все пали к ногам моим, а от совершенного неведения о событиях того времени. Хотя известие о выступлении из Москвы дошло до них несколько дней прежде занятия мною Гродны, при всем том они все еще полагали армию нашу в окрестностях Смоленска, а отряд мой – партиею от корпуса Сакена.

Я остановился на площади, сошел с коня и велел ударить в барабан городской полиции. Когда стечение народа сделалось довольно значительным, я приказал барабанам умолкнуть и велел читать заранее приготовленную мною бумагу, с коей копии, переведенные на польский язык, были немедленно по прочтении русской бумаги распущены по городу.

«По приему, сделанному русскому войску польскими жителями Гродны, я вижу, что до них не дошел еще слух о событиях: вот они: Россия свободна. Все наши силы вступили в Вильну 1-го декабря. Теперь они за Неманом. Из полумиллионной неприятельской армии и тысячи орудий, при ней находившихся, только пятнадцать тысяч солдат и четыре пушки перешли обратно за Неман. Господа поляки! В черное платье! Редкий из вас не лишился ближнего по родству или по дружбе: из восьмидесяти тысяч ваших войск, дерзнувших вступить в пределы наши, пятьсот только бегут восвояси; прочие – валяются по большой дороге, морозом окостенелые и засыпанные снегом русским.

Я вошел сюда по средству мирного договора; мог то же сделать силою оружия, но я пожертвовал славою отряда моего для спасения города, принадлежащего России, ибо вам известно, что битва в улицах кончается грабежом в домах, а грабеж – пожарами.

И что же? Я вас спасаю, а вы сами себя губить хотите! Я вижу на лицах поляков, здесь столпившихся, и злобу, и коварные замыслы; я вижу наглость в осанке и вызов во взглядах; сабли на бедрах, пистолеты и кинжалы за поясами... Зачем все это, если бы вы хотели чистосердечно обратиться к тем обязанностям, от коих вам никогда не надлежало бы отступать?

Итак, вопреки вас самих я должен взять меры к вашему спасению, ибо один выстрел – и горе всему городу! Невинные погибнут с виновными... Все – в прах и в пепел!

Дабы отвратить беду – не войскам моим, которые найдут в оной лишь пользу, а городу, которому грозит разрушение, – я изменяю управление оного.

Подполковник Храповицкий назначается начальником города. На полицеймейстера и подчиненных его, которые все поляки, я положиться не могу и потому приказываю всем и во всем относиться к еврейскому кагалу.

Зная приверженность евреев к русским, я избираю кагального в начальники высшей полиции и возлагаю на него ответственность за всякого рода беспорядки, могущие возникнуть в городе, так, как и за все тайные совещания, о коих начальник города не будет извещен. Кагального дело – выбрать из евреев помощников для надзора как за полицией), так и за всеми польскими обывателями города. Кагальный должен помнить и гордиться властью, которою я облекаю его и евреев, и знать, что ревность его и их будут известны вышнему начальству.

Предписывается жителям города, чтобы в два часа времени все огнестрельное оружие, им принадлежащее, было снесено на квартиру подполковника Храповицкого. У кого отыщется таковое пять минут после истечения данного мною срока, тот будет расстрелян на площади. Уверяю, что я шутить не люблю и слово свое умею держать как в наградах, так и в наказаниях».

«Это что за столб?» – спросил я, увидя высокий столб посреди площади. Кагальный объявил, что этот столб поставлен во время празднования польскими обывателями взятий Москвы. В ото время, не помню точно, но, кажется, г-н Андржикович (шурин генерала Беннингсена, ныне губернатор Волынской губернии и оплеченный анненскою лентою) подошел ко мне с унизительною ужимкою и сказал: «Cela se nomme mat de cocagne, mon colonel; les circonstances...» (Это – так называемый призовой столб, полковник; обстоятельства. – **Ред.**). Взгляд пронзительный осадил его в толпу, из которой он выступил.

«Кагальный, топоры, – и долой столб!» – Столб мгновенно рухнул на землю. «Что за картины вижу я на балконах и окнах каждого дома?» – «Это прозрачные картины, – отвечал кагальный, – выставленные, как и столб, для празднования взятия Москвы». – «Долой, и в огонь на площади!»

Когда некоторые из картин пронесли мимо меня, я приметил разные аллегорические ругания насчет России. Но самая замечательная находилась на балконе аптекаря. На ней изображались орел Франции и белый орел Польши, раздирающие на части двуглавого орла России. Я велел позвать к себе аптекаря и приказал ему к 12-му числу, то есть ко дню рождения императора Александра, написать картину совершенно противного содержания, присовокупи к орлам Франции и Польши еще двух особых орлов, улетающих от одного орла русского.

Между тем я не забыл и жителей, с домов коих сорваны были подобные аллегории. Им было велено к тому же числу выставить изображения, приличные настоящим обстоятельствам и прославляющие освобождение России от нашествия просвещенных варваров. Все повиновались без прекословия; один аптекарь представил затруднения, уверяя, что так как картина, на него наложенная, весьма многосложна, то он не успеет исполнить приказания в такой короткий срок. Этого было довольно. До сей поры на лице и в словах моих изображалась одна холодная строгость; я искал случая закипеть гневом, чтобы окончательно уже сразить надменность польскую. Случай представил, и, как мне после сказывали товарищи мои, безобразие мое достигло до красоты идеальной... Я заревел, и электрическая искра пробежала по всей толпе поляков; об аптекаре же и говорить нечего; он вытянулся, как клистирная трубка, и побледнел, как банка магнезии. Я приказал к дому его приставить караул с тем, чтобы целые сутки 12-го числа не было у него огня не токмо в доме, но даже и на кухне, а 13-го вечером, когда нигде уже не будет иллюминации, велел ему осветить все окна и выставить на балконе означенную прозрачную картину. Так и было.

В заключение всем неистовствам (как называли их поляки и в чем я с ними соглашаюсь), я отыскал того ксендза, который говорил похвальное слово Наполеону при вступлении неприятеля в пределы России, и приказал ему сочинить и говорить в российской церкви слово, в котором бы он разругал и предал проклятию Наполеона с его войском, с его союзниками и восхвалил бы нашего императора, вождя, народ и войско; а так как я не знал польского языка, то назначено ему было 11-го числа, вечером, представить рукопись свою Храповицкому для рассмотрения.

Сверх того я назначил сотню казаков, всегда готовых для Храповицкого, когда нужно было ему прибегнуть к силе для исполнения повелений его. Эти казаки посылаем также были патрулями по городу денно и нощно и не позволяли сборища свыше пяти человек. Предписал запечатать магазины и оставить при них поставленные майором Чеченским караулы.

Приказал открыть греко-российскую церковь и восстановить в ней богослужение. 12-го числа, в день рождения государя императора, приказал, чтобы все городские чиновники явились ко мне с поздравлением, чтобы город был освещен плошками и чтобы звонили целые сутки во все колокола всех церквей.

И, наконец, приказал кагалу подать список всем чиновникам и обывателям, записавшимся в службу Варшавского герцогства.

Таким образом, окончa, так сказать, площадные дела мои, я пошел на квартиру, откуда немедленно отправил курьера в главную квартиру с донесением о благополучном исполнении возложенного на меня препоручения.

Двенадцатого числа, поутру, господин Рот вошел ко мне и объявил о приезде чиновников и всех почетных особ города для поздравления. Занимаемый мною дом был на городской площади, против ратуши. Я и Храповицкий жили в двух маленьких горницах, примыкающих к обширной, сырой зале, с самого начала зимы не топленой и по сырости своей обитаемой одними кашлями и ревматизмами. Там я заставил ждать битый час всех моих посетителей, одетых уже в губернские мундиры, с повинными головами, дрожавшими от страха и стучавшими зубами от стужи нестерпимой. Наконец я предстал пред ними в моей наездничьей одежде. Имелся список, куда кто был записан; я говорил им крупно, без запятых и точек, и заключил монолог мой приказанием итти со мною в русскую церковь молиться за царя русского и благодарить бога за избавление России.

Все, что я приказал Храповицкому, Храповицкий – кагалу, а кагал – обывателям, все исполнилось в точности и все разрывало от досады поляков, принужденных против воли прославлять и царя и народ русский, внезапно перейти от надменной походки вооруженных рыцарей к национальному их ногопадению, и вместо владычества над Россией – исполнять предписания жидовского кагала.



**Дзяніс Васільевіч Давыдаў (1784–1839) – паэт, ваенны пісьменнік, генерал-лейтэнант, георгіеўскі кавалер. На пачатку Айчыннай вайны 1812 года камандаваў батальёнам Ахтырскага гусарскага палка, прапанаваў Кутузаву арганізаваць партызанскія дзеянні на камунікацыях французаў. Камандаваў аддзелам з гусараў і казакоў, якi сваімі поспехамі ўвайшоў у гісторыю вайны. Прапанаваны ўвазе чытача ўрывак дае ўяўленне пра настроі апошніх дзён той непрацяглай, але драматычнай вайны, якая каштавала Беларусі каля мільёна жыццяў**

# «Ніхто і Ніадкуль»

## *Рэжысёр «Чорнай кошкі, белага ката» назваў свой новы фільм «Жыццё – гэта цуд»*

У адным з нядаўніх інтэрв'ю Эмір Кустурыца паведаў, што ён разглядаў прапанову прадзюсера экранізаваць выбітны раман Булгакава «Майстра і Маргарыта». Аднак выстаўленая ўмова – дыялогі павінны быць на англійскай мове – аказалася для рэжысёра непрымальнай.

Можна пашкадаваць, што Кустурыца адхіліў прапанову – гэта, безумоўна, было б зусім іншае бачанне фантасмагарычнай драмы, чым вядомая выдатная польская кінапастаноўка. «Майстра і Маргарыта» нібыта чакаюць таго Кустурыцу, які на Венецыянскім кінафестывалі 1981 года атрымаў неафіцыйны тытул «рэжысёра XXI стагоддзя» і які пацвердзіў свае права на яго шэрагам сусветна вядомых фільмаў.



### Радзіма

Кустурыцу называюць «балканскім Феліні», за ім зацвердзілася слава абранніка ўдачы, паколькі ён рана і раптоўна стаў уладальнікам прэстыжных фестывальных узнагарод.

Эмір Кустурыца нарадзіўся 24 лістапада 1955 года ў Сараеве, у былой Югаславіі, у мусульманскай сям`і з праваслаўнымі сербскімі каранямі. Радзіма, ці як любіць называць яе Кустурыца, – «мая зямля», у ягоным апісанні выглядала гэтак: «Я нарадзіўся на ўскраіне, дзе ў радыусе трохсот метраў стаяць чатыры храмы: каталіцкі, праваслаўны, мусульманскі і сінагога. Яны стаяць на зямлі, на якой не расце нічога, акрамя слівы. На зямлі, па якой пракрочылі ўсе заваёўнікі новага часу...» А ў нядаўні час па ёй зноў пракрочыла вайна, у выніку якой Югаславія «знікла назаўжды. Мая нацыянальнасць «інтэрнацыянальная», але я па-ранейшаму вельмі ганаруся тым, у якой абстаноўцы прайшло маё дзяцінства. Той змешанасцю, якая існавала тады.. Толькі югаслаў можа зразумець усю складанасць гісторыі гэтай краіны». Зараз Кустурыца большую частку часу жыве ў прыгарадзе Парыжа. Вяртацца ў Сараева Кустурыца не хоча, бо «нельга вяртацца ў краіну, якая спаліла твой дом». У 1995 годзе бацькоўскі дом Кустурыцы быў разрабаваны і зруйнаваны мусульманскімі баевікамі, а маці мусіла выехаць у Чарнагорыю. Цяпер рэжысёр збудаваў дом на мяжы Сербіі і Босніі – у тых мясцінах, дзе праходзілі здымкі яго апошняга фільма «Жыццё – гэта цуд». «Я ведаю, што такое «мая зямля», – гаворыць ён, – я ведаю і ўсё жыццё буду памятаць яе пах, гукі лісця, якое ападае, буду памятаць дотык да знаёмых і любімых рэчаў». Мір і спакой у гэтых мясцінах не залежыць ад жыхароў Балканаў і тым болей ад кіно, лічыць Кустурыца. «Вайну ў Македоніі, калі было вельмі трэба, спынілі за паўгадзіны, – кажа ён, – а ў Босніі яна працягвалася бясконца. Значыць, гэта камусьці выгадна. Паглядзіце хоць бы «Знесеныя ветрам»: нават з гэтай нявіннай меладрамы відаць, што багацце – заўсёды плён вайны».

### Кар`ера

Эмір Кустурыца – багата адораны чалавек, цяпер ён вядомы як рэжысёр, сцэнарыст, акцёр, музыкант, але для кіно ён быў прызначаны. У сілу прызначэння ён пачаў здымаць фільмы ў школьныя гады і дзякуючы гэтаму патрапіў у знакамітую Пражскую кінаакадэмію FAMU на рэжысёрскі факультэт. Дыпломны фільм «Герніка», зняты ім на трэцім курсе, атрымаў першы прыз на кінафестывалі ў Карлавых Варах у 1977 годзе. Дзве стужкі для тэлебачання Сараева – «Нявесты прыходзяць» і «Буфет Тытаніка» – далі яму магчымасць зняць мастацкую паўнаметражку. Дэбют аказаўся трыумфальны – фільм «Вы памятаеце Долі Бел?» заслужыў «Залатога Льва» Венецыянскага фестывалю ў 1981 годзе.

Сюжэт другога фільма – «Калі тата паехаў па справе» (1985) – быў аднесены ў 1948 год, да часу памятнага канфлікту Ціта са Сталіным і балючага распаду сямейных традыцыяў у пераменлівым свеце. Узнагароды – «Залатая пальмавая ветка» ў Канах і намінацыя на «Оскара» ў катэгорыі «лепшы замежны фільм» – прынеслі Кустурыцы не проста міжнародную вядомасць, старшыня канскага журы – Мілаш Форман – назваў Кустурыцу «надзеяй еўрапейскага і сусветнага кіно».

Найбольш вядомая ў нас работа Кустурыцы – фільм «Чорная кошка, белы кот» – нарадзіўся з праекту для нямецкага тэлебачання пра цыганскую музыку. Карціна сапраўды насычана цыганскай музыкай, эмоцыямі і рэаліямі «цыганскага жыцця». Сваю ўвагу да цыганскай тэмы Кустурыца тлумачыць гэтак: «Цыгане – асаблівыя людзі. Яны маргіналы. А я люблю маргіналаў, у іх жыццё і свядомасць незамутнёная, амаль што дзіцячая, яны не ўдзельнічаюць у гэтым нашым запраграмаваным жыцці. Для цыган існуюць толькі грошы, любоў, сям`я. І ўсё. Нічога лішняга». «Чорная кошка, белы кот» атрымала прыз за рэжысуру на фестывалі ў Венецыі і адначасна абвінавачванні, што Кустурыца здымае «пір у час чумы», хаваецца ад рэчаіснасці ў «табарнае шчасце», ва утапічны камедыйны свет, у якім дзейнічаюць любоў, золата, смерць і ўваскрэшанне, цыганскія бароны і цыганскія жулікі. Гэты яўны гратэскны вадэвіль дзякуючы таленту Кустурыцы атрымаў вартасці панарамы, якая эпічна зафіксавала час цыган, стварыла іх міфічны вобраз. «У жыцці праўда часта бывае вельмі горкая, – кажа рэжысёр, – а хлусня, наадварот, прыгожая, і мы з задавальненнем верым у яе. Я не надта імкнуся да нейкай натуральнасці ў сваіх фільмах, бо я згодны са знакамітым галівудскім выказваннем: «Кіно павінна быць болей чым жыццё». «Чорная кошка, белы кот» – гэта болей чым жыццё, згодна з законам самага высокага мастацтва – міфу – святочны парад тыпаў не падпарадкоўваецца часу. Кот і кошка – вось хто сведчаць рэальнасць на гэтым свяце.

Кустурыцы своеасаблівы мастак ужо ў сілу нараджэння і выхавання абсалютна ў іншым месцы, чым іншыя еўрапейскія ці амерыканскія рэжысёры. Ён нарадзіўся паблізу плошчы, якую прасякалі малітвы хрысціянаў, іудзеяў і мусульман. Якую сумесь чуў у выніку Бог, можна толькі гадаць. «Я хутчэй чалавек мінулага, – ацэньвае сябе Кустурыца. – І належу кінематографу мінулага. Я – выкапень. Ці персанаж з імем Ніхто. Калі я атрымаў шмат гадоў таму першы прыз у Венецыі, у газеце напісалі: пераможца – ніхто і ніадкуль! З таго часу ўсё так і засталося». Гэтае «ніхто і ніадкуль», народжанае газетнай ахвотай да сенсацыі, адносілася ў 1981 годзе да маладога ўзросту пераможцы і да яго краіны. Кустурыца асэнсаваў гэта філасофскі – яго героі гэта «ніхто і ніадкуль»



### Бас-гітара

Кустурыца – чалавек эмацыйны і схільны да эпатажных учынкаў. Вядома, што ён цалкам сур`ёзна выклікаў на дуэль лідэра сербскіх нацыяналістаў, аддаючы яму права выбару зброі. За Кустурыцай было права выбраць месца і час дуэлі – ён прызначыў дуэль апоўдні на галоўнай плошчы Бялграда. Палітык, разумеючы, што застанецца ў дурнях, калі параніць ці заб`е Кустурыцу, і тым болей, калі сам будзе паранены ці калі стрэліць у паветра, выклік не прыняў.

Кустурыца не толькі рэжысёр, але яшчэ і рок-музыкант. Ён грае на бас-гітары ў фолк-рокансамблі «Zabranjeno Pusenje» («Паліць забаронена», «The No Smoking Orchestra»). Свой шлях у гэтую групу Эмір Кустурыца патлумачыў так: «Я прывёз сваю «Залатую пальмавую ветку» ў Сараева, а там насельніцтва 300 тысяч чалавек. Хутка прыходзіць пачуццё, што з мяне робяць – ну, як гэта дакладна назваць – турыстычную славутасць, помнік, элемент сістэмы. Вось тады я і пачаў іграць на гітары, на бас-гітары, каб усе ўбачылі, што я па натуры маргінал. Мне нават тады забаранілі ў кінашколе выкладаць. Маўляў, як гэта прафесар – і нейкі там музыканцік. Спецыяльная камісія Міністэрства культуры збіралася, тэатр абсурду».

Рок-група ўтварылася ў 1980 годзе і выконвала тады рок з панкаўскімі тэкстамі. Кустурыца іграў у ансамблі ў 1986–88 гадах і зноў узяў у рукі гітару ў 1998 годзе, ужо як уладальнік дзвюх «Залатых пальмавых ветак». «Я разумею, што напачатку гледачы прыходзілі паглядзець на мяне таму, што я кінарэжысёр, – тлумачыў Кустурыца, – але за два гады мы далі 200 вялікіх канцэртаў. Наўрад ці гэта ўдалося б, калі б людзьмі рухала толькі цікаўнасць». Іншым разам Кустурыца не без позы гаворыць, што яго сапраўднае прызванне музыка, а кінафільмы – цікавы занятак у перапынках паміж рэпетыцыямі і канцэртамі. Усё магчыма. Але музыку ён не піша. Музыку да кінафільма «Чорная кошка, белы кот» напісаў лідэр «Zabranjeno Pusenje» Ненад Янкавіч (Неле)

### «Жыццё – гэта цуд»

На апошніх Канскім і Маскоўскім кінафестывалях Эмір Кустурыца паказваў свой новы фільм «Жыццё – гэта цуд». У Маскве рэжысёр атрымаў ганаровы прыз – «За ўклад у сусветны кінематограф».

Сюжэт карціны не вылучаецца складанасцю. 1992 год. Серб Лука марыць пабудаваць чыгунку ў гарах Босніі, каб у гэты дзікі кут прыйшла цывілізацыя. Дзеля гэтага ён едзе з жонкай і 18-гадовым сынам у закінутую ў лясах вёску. Захоплены сваёй марай, ён не прыкмячае подступу вайны. Яго жонка пакідае яго, сын ідзе ваяваць і трапляе ў палон. Луку прапануюць абмяняць сына на ўратаваную ім ад гвалтаўнікоў баснійку Сабаху. Але Лука і Сабаха пакахалі адзін аднаго.

«Гэты фільм, – гаворыць рэжысёр, – мой погляд на балканскую вайну. Я імкнуся пранікнуць у сутнасць падзей. Гісторыя гэтай карціны сапраўды адбылася ў Тырнава побач з горадам Сараева. Там жыў серб, у якога падчас вайны ў Босніі зніклі сын і жонка, а ў закладніках у яго была мусульманка, якую ён хацеў памяняць на сваіх родных, але закахаўся ў яе. Я думаю, гэтая драма дастойная пяра Шэкспіра. Усе мае фільмы аб адным і тым жа – аб сям`і.

Я не хацеў апісваць вайну як падзею, якой патрэбна расшыфроўка, бо тлумачыць там няма чаго. Па свеце ходзіць садоўнік – і раскідвае насенне вайны. Падумайце, што будуць рабіць Кофі Анан ды і сам Джордж Буш, калі не будзе войн? А глеба заўсёды прыдатная. Ёсць статыстыка: пасля падзення Берлінскай сцяны ў свеце стала ў 8 разоў болей бедных. У ЗША 20 мільярдаў даляраў жанчыны штогод выдаткоўваюць толькі на фарбу для валасоў. Сярэдні в`етнамец зарабляе ў 57 раз меней за сярэдняга француза. Калі б адзін працэнт звышдаходаў мультыкарпарацыяў быў накіраваны на барацьбу з беднасцю, праблему можна было б вырашыць у першым набліжэнні. У свеце сёння толькі адзін працэнт людзей валодае камп`ютэрамі – хаця здаецца, што за імі жыццё праводзяць усе. Свет становіцца ўсё меней прыемным месцам для жыцця».

Фільм зроблены як трагіфарс. «Бо мне ўжо амаль 50 гадоў, – кажа Кустурыца, – а я ўсё яшчэ веру ў існаванне цуду, хоць бы ў нашых надзеях. Бо ў нашым жыцці можна знайсці мноства падставаў, каб захапляцца». Напрыклад, тым, што на свет прыходзіць вялікі Ніхто і Ніадкуль і выконвае тое, дзеля чаго яму быў падараваны талент.

**Таццяна АЛЕКСАНДРОВІЧ**





# Страусавая палітыка Захаду

**Андрэ Глюксман**
**Французскі філосаф**



Хто перажывае канец Свету, не ведае гэтага, а хто ведае, хоць і не перажывае яго, асуджаны насуперак сваёй волі разважаць на краі процьмы. Ужо дзесяць гадоў таму можна было здагадацца, што брудная чачэнская вайна абернецца катастрофай. Я смуткую аб загінулых дзецях Беслана, я ашаломлены, абяззброены, як і ўсе, хто ўбачыў у шырока раскрытых вачах закладніка, што немагчымае – магчыма.

Але мы не павінны пазбягаць гэтых кадраў. Яны прарочыя. Апакаліптычная карціна, якая паўстала перад нашымі вачыма 3 верасня, будзе мець працяг. Агідны працяг. Як ракета, яна накіравана не толькі на Каўказ і Расію, але і на ўсю Еўропу.

Беслан – гэта самы вар'яцкі захоп закладнікаў ва ўсёй гісторыі. Хоць бы па колькасці ахвяраў, але найперш па сваёй абсалютнай жорсткасці, з якой дзейнічалі тут злачынцы. Хто падвешвае бомбы гірляндамі над сотнямі дзяцей, пагражаючы ім смерцю, калі яны заплачуць, хто прымушае іх піць уласную мачу, таго ўжо нішто не спыніць. І тым болей не пекла. Сёння захопленыя ў закладнікі школьнікі, заўтра – узарваная атамная электрастанцыя. Чаму б і не, тэрарысты ж даражаць сваім жыццём гэтак жа мала, як і жыццём іншых

А Крэмль аб'яўляе ўзнагароду за выдачу Масхадава, ставячы кляймо на ўвесь народ. Народ, які знішчаецца ўжо дзесяць гадоў, аб'яўляецца народам забойцаў. Чачэнцы сярод іншых – так, проста чачэнцы – не!

Калі ў 1999 годзе Пуцін уваходзіць у Чачню, ён заяўляе, што да пачатку 2000 года тэрарысты будуць падаўлены. Ён адпраўляе свае бамбавікі, свае танкі і 100.000 салдат для захопу краіны, якая па плошчы раўная Парыжу з наваколлем, насельніцтва якой складае не болей за 1 мільён. Ён раўняе з зямлёй Грозны (400.000 жыхароў). Калі такая бойня называецца барацьбой з тэрарызмам, дык трэба спытаць сябе, чаму англічане не зраўнялі з зямлёй Белфаст, іспанцы – Більбао, а французы – Алжыр у часы Алі ля Пуэнта.

Жорсткасць спецслужбаў што ў Беслане, што ў Чачні аднолькавая. «Чэкіст заўсёды застаецца чэкістам», – такое крэда ачольніка Крамля. ЧК – гэта савецкае гестапа, папярэдніца КДБ, прамаці цяперашняй ФСБ.

Мы – саўдзельнікі гэтай катастрофы. Ніводзін заходні ўрад не насмеліўся паставіць пад сумнеў заслугі гэтага пажарніка-пірамана, які за пяць гадоў не змог «замачыць тэрарыстаў у сарціры», як ён абяцаў некалі, хаця паліў дамы, вёскі і гарады. Замест гэтага ён толькі распаўсюдзіў хаос на ўвесь Каўказ. А Еўропа і Злучаныя Штаты даюць яму картбланш і спрачаюцца між сабой, хто з іх яго лепшы сябра. Ашаламляльная адмова інтэлекту!

Давайце прыгадаем, як па пытанні Ірака сутыкнуліся два «светапогляды». Парыж і ўвесь «лагер міру» сцвярджаюць, што тэрарызм з'яўляецца параджэннем вайны, якую трэба ўсімі сіламі імкнуцца пазбегнуць. Вашынгтон і яго хаўруснікі заяўляюць, што тэрарызм з'яўляецца следствам прыгнятання, а свабода – маці міру, таму дзеля свабоды вайна можа стаць неабходнай.

Усе ведаюць, што чачэнскае насельніцтва скарацілася на адну пятую ці нават на чвэрць. У каго нестае фантазіі, трэба сказаць, што такое кровапусканне ў Францыі было б раўнае стратам 10–15 мільёнаў чалавек. Чачня перажывае самую жахлівую з войнаў, якія сёння вядуцца ў свеце: 40 тысяч забітых дзяцей – і ніякіх здымкаў, усё пад поўным покрывам цемры.

Самае крывавае самавольства пануе ў гэтым закрытым рэгіёне, які расійская журналістка Ганна Паліткоўская назвала «канцлагерам пад адкрытым небам», – цалкам адрэзаная ад усяго свету краіна, дзе забаронены здымкі. Толькі зрэдку туды ўдаецца патрапіць некалькім адважным журналістам.

### Афганскі сцэнар

Выдатная магчымасць для двух «светапоглядаў» настроіць свае скрыпкі і здзейсніць прынцыпы, на якія яны спасылаюцца, – крыжовы паход супраць Чачні адказвае абодвум гэтым «светапоглядам». Тры стагоддзі прыгнёту прывялі да супраціву. А жорсткасць апошняй вайны садзейнічае ўзнікненню тэрарызму.

Зараз неабходна тэрмінова адзёрнуць Пуціна і патлумачыць яму з Парыжа, што яго вайна, а з Вашынгтона сказаць, што яго жахівая палітыка, – вядуць да хаосу нігілізму. Але не! Дзе ж там, вялікія прынцыпы! Страусавая палітыка – галаву ў пясок, вялікія гэтага свету не жадаюць нічога бачыць.

Магчыма, яны забыліся на афганскі сцэнар? На працягу 10 гадоў расійская – тады «савецкая» – армія выяўляла свае разбуральныя таленты: спусташала тэрыторыю, знішчала народ, разлагала сацыяльныя, духоўныя і маральныя каштоўнасці. У хаосе выйграюць злачынцы, бяруць верх фанатыкі – адсюль Талібан, бен Ладэн і – Манхэтэн у полымі.

Аслеплены Захад кінуў камандзіра Масуда, які спачатку змагаўся супраць Саветаў, потым супраць ісламістаў, на волю лёсу. Памылку прыкмецілі занадта позна. Яго зрабілі іконай, але ўжо пасля смерці. У Чачні ёсць памяркоўны лідэр руху за незалежнасць: Аслан Масхадаў заўсёды асуджаў напады на мірнае насельніцтва. З самага пачатку ён выказваў асуджэнне захопу закладнікаў у Беслане, ён прапанаваў сваю дапамогу. Але расійскія лідэры замест яго пасярэдніцтва выбралі штурм школы.

Як і Масуд, ён добры стратэг, у 1996 годзе ён перамог расійскую армію. Як і Масуд, ён для свайго народа – герой. Як і Масуд, ён не святы: ён дапусціў памылку, дзеля нацыянальнай еднасці аб'яднаўся з экстрэмістамі. Ужо два гады ён прапануе план: замірэнне, раззбраенне байцоў, за незалежнасць, вывад расійскіх войскаў, міжнародныя сілы для кантролю і часовая адмова ад патрабавання незалежнасці. Без яго дапамогі выхаду няма. Інакш народу пагражае з боку Расіі знішчэнне. Інакш з чачэнскага боку зыходзіць пагроза распаўсюджання нігілізму.

Як можна растлумачыць безадказнасць нашых адказных асоб? Дэмакратычныя ўрады не могуць прымаць расісцкія абвінавачанні цэлага народу ў злачыннасці: усе чачэнцы = забойцы = бен Ладэн. Ці ведаюць яны іх будзённасць, поўную жаху, гора, пакутаў, з іх фільтрацыйнымі лагерамі, паляваннем на людзей, гандлем трупамі і іх органамі? Так, яны ведаюць пра гэта. Дык што яны, надта даверлівыя і таму апраўдваюць Пуціна, задавольваючыся заявамі аб тым, што ён нясе мір і «нармалізацыю» на Каўказе? Ці ведаюць яны, што ніхто не можа схавацца ад новага Чарнобыля?

### Нашы гора-макіявелісты

Не магу паверыць, што нашыя правіцелі настолькі дурныя. І ўсё ж, прыходзіцца думаць, што адказнасць за нашу бяспеку яны ўсклалі на чарадзея з Крамля. Магчыма, яны спадзяюцца, не зусім прызнаючы гэта, што ён знішчыць чачэнцаў, раней чым пазасталыя ў жывых заключаць пакт з д'яблам нігілізму? Такая стаўка на бясконцую вайну ў вышэйшай ступені амаральная, але найперш яна ўяўляе сабой палітычную памылку.

Пасля гэтулькіх забойстваў і «чорнай дзіры» Беслана ваенны баланс Пуціна гаворыць сам за сябе: гэта баланс хаатычнага мясніка, фабрыканта Апакаліпсісу. Прыйшоў час, пакуль яшчэ Масхадаў жывы, заклікаць Пуціна да парадку, на поўны голас патрабаваць яго змяніць свае метады.

Ужо дзесяць гадоў нашы лідэры не вераць у сілу маральнага абурэння. Ужо дзесяць гадоў яны паводзяць сябе як палітыкі-рэалісты: з-за Грознага зямля не перастане круціцца, давайце пазбягаць сварак з рускім гігантам, пакінем маралістаў саміх сабе. Прабачаюся, але без этнічных прынцыпаў доўгатэрміновай палітыкі не існуе. Нельга падзяляць мараль і палітыку, як мяркуюць нашы гора-макіявелісты. Палітыка аэробусаў і нафты, паклонаў і прынцыпу «мне ўсё роўна, няхай народ знішчаюць», – вядзе ў Беслан.

Яны смяюцца над «лагоднымі», такімі, як я, паколькі з нешматлікімі сябрамі я змагаюся супраць чорнага, чырвонага і зялёнага фашызму. Таму я падтрымоўваў Салжаніцына і Сахарава, Гавела і Масуда, выгнаных з Косава, забітых у Алжыры, – і усіх тых бедных і бездапаможных, за якіх рэалісты і капейкі не далі б. Мая «лагодная» душа гаворыць ім: нельга беспакарана сціраць з карты зямлі народ, нават калі ён да смешнага малы ў вачах нашых вялікіх нацыяў.

**«Sueddeutsche Zeitung»**



# *Заява Аслана Масхадава*



«Аслан Масхадаў,
прэзідэнт ЧРІ

У сувязі з заявай Шаміля Басаева, у якой ён прымае на сябе адказнасць за арганізацыю тэрарыстычнага акту ў г. Беслан Паўночнай Асеціі, адказна заяўляю, што кіраўніцтва Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыі і Узброеныя сілы Чачэнскай Рэспублікі Ічкерыі, якія знаходзяцца пад маім камандаваннем, не маюць ніякіх адносінаў да гэтага тэрарыстычнага акту.

Яшчэ раз хачу адзначыць, што самым рашучым чынам адмаўляю і асуджаю падобныя метады вядзення барацьбы, ад каго б яны не зыходзілі.

На жаль, ва ўмовах працягу цяперашняй вайны прыцягнуць да адказнасці вінаватых у здзяйсненні дадзенага тэрарыстычнага акту практычна немагчыма. Аднак адказна заяўляю, што пасля спынення вайны асобы, вінаватыя ў здзяйсненні супрацьпраўных дзеянняў, будуць аддадзены пад суд, у тым ліку і Шаміль Басаеў.

Заклікаю Міжнародную супольнасць устанавіць Міжнародны трыбунал па ўсебаковым расследаванні ўсіх злачынстваў, здзейсненых у ходзе гэтай вайны абодвума бакамі канфлікту.

Аднак лічу неабходным адзначыць, што падобныя акты з'яўляюцца следствам і рэакцыяй на генацыдную вайну расійскага кіраўніцтва супраць чачэнскага народа, у ходзе якой расійская армія забіла 250 тысяч чалавек, у тым ліку 42 тысячы дзяцей.

Працяг гэтай вайны можа прывесці ў рэшце рэшт да таго, што сітуацыя стане неўпраўляемая, следствам чаго непазбежна з'явіцца нарастанне колькасці і маштабаў актаў тэрарызму.

Агульнавядома, што прычынай гэтага шматвяковага канфлікту, які мае гісторыю цягам чатырох стагоддзяў, і ў ходзе якога чачэнскі народ неаднойчы цярпеў жорсткія акты генацыду, з'яўляецца імкненне расійскага каланіялізму задушыць волю чачэнскага народа да здзяйснення свайго законнага права на самавызначэнне.

Адзіна магчымым і правільным рашэннем чачэнска-расійскага канфлікту з'яўляецца палітычнае рашэнне, якое прадугледжвала б міжнародныя гарантыі спынення і не ўзнаўлення генацыду чачэнскага народа з боку расійскага каланіялізму».

**Grani.ru**

# *Народ ведае, дзяржава – не*

Алена Касумава, намеснік дырэктара бесланскай школы, разам з іншымі настаўніцамі, якія перажылі трагедыю, стварыла сайт **www. Beslan.ru**. Цэлымі днямі яны званілі ў Беслан і навакольныя пасёлкі, у шпіталі Уладзікаўказа і Масквы, хадзілі па класах. Кожны дзень яны ўносяць змены ў спіс пацярпелых, у якім цяпер паказаны 1.338 закладнікаў, змяняючы словы «няма дадзеных» на «загінуў», «жывы», «у бальніцы» ці «прапаў без вестак». Іх дадзеныя істотна адрозніваюцца ад афіцыйных дзяржаўных, згодна з якімі колькасць закладнікаў была 1.156 чалавек.

Міністр аховы здароўя і сацыяльнага развіцця Міхаіл Зурабаў збіраецца ў першую чаргу выплаціць кампенсацыі 603 закладнікам. Грошы атрымае толькі той, хто афіцыйна звярнуўся да міністра. Родныя, якія ў шпіталях даглядаюць сваіх блізкіх і ў каго няма часу, каб падаць заяву, ці якія нікуды не выходзяць з-за жальбы, будуць "ахоплены" кампенсацыямі пазней.

Усяго 100 тысяч рублёў дзяржава прадугледжвае выдаць за закладніка, які загінуў, паранены атрымае 50 тысяч, а тыя, хто перажылі толькі псіхалагічны шок, атрымаюць па 25 тысяч. Колькі людзей загінула ў Беслане? Афіцыйныя ўлады хлусяць. На пачатку яны назвалі лічбу 346, потым папраўілі яе на 329, зараз падвысілі яе да 338. У моргах сталіцы рэспублікі знаходзяцца яшчэ 80 скалечаных да непазнавальнасці цел. Да таго ж судова-медыцынскіх экспертаў чакае яшчэ праца з фрагментамі 90 цел. У Беслане лічаць, жыцця былі пазбаўлены болей за 500, а магчыма нават 600 чалавек.

Цяпер следчая камісія парламента ў складзе 21 чалавека павінна ўсё высветліць на месцы. На поўдзень адправіўся апошні рэзерв дзяржаўнай улады. Сярод іх целаахоўнік Жырыноўскага Алег Малышкін, сем дэпутатаў крамлёўскай партыі "Адзіная Расія", а таксама сем палітыкаў, якія прыйшлі з органаў бяспекі.

"Кішэнныя палітыкі і палітычныя клоўны пачалі працу», – напісала gazeta.ru. Чаму ў гэтай камісіі няма незалежных дэпутатаў? Вынікі яе працы будуць засакрэчаны. Тым часам Жырыноўскаму ўжо зразумела, што будзе: "болей грошай, болей людзей, болей улады органам бяспекі".

**Die Presse**

# Маскоўскі Мусаліні

**Збігнеў Бжэзінскі**

*«Ты и убогая, ты и обильная,*
*Ты и могучая, ты и бессильная*
*Матушка-Русь!»*

Гэтыя радкі Някрасава Уладзімір Ленін працытаваў у праграмным артыкуле, апублікаваным 12 сакавіка 1918 года. У артыкуле выкладаліся падставы перанясення сталіцы з Петраграда ў Маскву. Сярод хаосу, засмучэння і жорсткасці тых рэвалюцыйных дзён Ленін, які ўсяго за тыдзень перад тым пасяліўся ў Крамлі, абвясціў: «Русь стане вялікай і магутнай, калі адкіне ўсялякі смутак і ўсялякую фразу, калі, сцяўшы зубы, збярэ ўсе свае сілы, калі напружа кожны нерв, кожны мускул... такі шлях да стварэння магутнасці ваеннай і сацыялістычнай».

Масква, якая за некалькі стагоддзяў да гэтага была сталіцай Івана Грознага, але ператварылася ў правінцыйны горад пасля таго, як Пётр Вялікі «прарубіў акно» ў Еўропу, збудаваўшы новую сталіцу, Санкт-Пецярбург, зноў стала цэнтрам Расіі. І застаецца ім па сённяшні дзень, а слаганы Леніна звышнатуральна папярэдзілі нядаўна агучанае Пуціным апраўданне цэнтралізаванай улады.

Важна разумець, што для расіянаў Крэмль – нешта больш значнае, чым месцазнаходжанне ўрада. Ён сімвалізуе цэнтралізаваную традыцыю расійскай аўтакратыі. Гэта традыцыя, якая асцерагаецца любой рэгіянальнай аўтаноміі, любой сапраўднай дэцэнтралізацыі, традыцыя, якая нараджае шавіністычную параною, што палітычны плюралізм непазбежна прывядзе да развалу самой Расіі.

Такі склад мыслення цалкам адпавядаў сталінісцкім прынцыпам планавай эканомікі і цалкам адпавядае бюракратычнаму мысленню КДБ з яго мараллю падазронасці і ерархічнай дысцыплінай. Для прадуктаў КДБ, такіх, як пан Пуцін, сцвярджэнне, што для таго каб быць «багатай і магутнай», Расія павінна кіравацца зверху ўніз, з'яўляецца аксіёмай.

Вышэйзгаданым абумоўлены дзве важныя асаблівасці расійскай рэальнасці. Па-першае, Масква – прытулак паразітуючай палітычнай эліты, якая прыраўнівае ўласныя інтарэсы да інтарэсаў Расіі. Гэтыя паразіты інстынктыўна падтрымоўваюць формулу ўлады, згодна з якой кіраванне вялізнай краінай з 11 гадзіннавымі паясамі засяроджана ў руках далёкіх маскоўскіх бюракратаў. Манапалістычная ўлада маскоўскай эліты душыць любую мясцовую ініцыятыву і не дае розным рэгіёнам Расіі скарыстаць уласныя таленты і рэсурсы.

Невыпадкова Масква як пры Сталіне, гэтак і ў апошнія гады была прывілегіяваным атрымальнікам выгадаў мадэрнізацыі і развіцця. У той жа час іншыя расійскія гарады працягваюць загніваць, і расійская глыбінка шмат у чым нагадвае часы Льва Талстога. Дасюль значная частка замежных інвестыцыяў паглыналася Масквой (ці вярталася за мяжу), тады як у іншых гарадах (прыкладам, Уладзівастоку) нават самыя элементарныя паслугі – ахова здароўя, камунальная гаспадарка ды іншае – застаюцца на прымітыўным узроўні.

Па-другое, навязлівая і эгацэнтрычная маскоўская эліта стрымлівае дэмакратызацыю. Яна падтрымала рашэнне Пуціна, бо яно адпавядае асноўным інтарэсам гэтай эліты, якая да гэтага дня песціць настальгію па статусу вялікай дзяржавы, якая атаясамлівае свой дабрабыт з панаваннем над усёй Расіяй і праз Расію па меншай меры над былымі савецкімі рэспублікамі. Для гэтай эліты Незалежнасць Украіны, Грузіі ці Узбекістана з'яўляецца гістарычнай абразай. Аўтаномія 20 мільёнаў нярускіх грамадзянаў Расіі – для яе выклік яе ўласным прывілегіям.

Адна паварот да статычнага цэнтралізму пры Пуціне не трэба блытаць з вяртаннем да якой-небудзь формы камуністычнага таталітарызму. Сённяшнія расійскія кіраўнікі разумеюць, што камунізм азначае застой, а эліта ведае, што камунізм таксама азначае пэўныя абмежаванні для яе самой.

Дзяржаўны капіталізм з цэнтральным кантролем разам з багаццем і замежнымі паездкамі з'яўляюцца лепшай формулай як для самазадаволення, так і для нацыянальных амбіцый.

Пуцінскі рэжым шмат у чым нагадвае фашызм Мусаліні. Дучэ дамогся таго, каб «цягнікі прыходзілі ў свой час». Ён цэнтралізаваў палітычную ўладу ў імя шавінізму. Ён усталяваў палітычны кантроль над эканомікай, не праводзячы нацыяналізацыю і не кранаючы алігархаў і мафію. Фашысцкі рэжым парадзіў нацыянальную веліч, дысцыпліну і экзальтаваныя міфы аб нібыта вялікай даўніне. Дакладна гэтак жа і Пуцін намагаецца злучыць традыцыі ЧК (ленінскага гестапа, кар'еру ў якім рабіў ягоны дзед) з кіраваннем у стылі сталінскага ваеннага часу, з прэтэнзіямі расійскага праваслаўя на статус трэцяга Рыма і з славянафільскімі марамі пра адзіную славянскую дзяржаву, якая ўпраўляецца з Крамля.

Нейкі час гэтае злучэнне можа выглядаць прывабным, але ў рэшце рэшт - магчыма, гадоў праз дзесяць – яно пацерпіць няўдачу. У правячыя колы эліты паступова прыйдзе новае пакаленне расіянаў, маладое, лепш адукаванае і больш адкрытае. Гэтае будучае пакаленне не задаволіцца жыццём у фашысцкай нафтавай дзяржаве, дзе Крэмль блішчыць ад нафтавых даходаў, а ўся астатняя краіна ўсё болей адстае не толькі ад Еўропы, але і ад Кітая. Яно разумее, што дэцэнтралізацыя вялікай краіны, здольная вызваліць сацыяльную ініцыятыву, – гэта ключ да мадэрнізацыі. Гэтую рэальнасць не закрыць ніякімі слаганамі аб «тэрарызме», да якіх звяртаецца Пуцін, каб апраўдаць удушлівую палітычную цэнтралізацыю.

І насамрэч ужо сёння Украіна з насельніцтвам амаль 50 мільёнаў чалавек (якую Савет нацыянальнай бяспекі Буша старанна ігнараваў, наіўна шукаючы добрага стаўлення Пуціна) пачынае дэманстраваць кантраст у дзвюх асноўных сферах: яе эканамічны прагрэс больш рознабаковы і прыкметны не толькі ў сталіцы, але і ў іншых гарадах; а яе палітычнае жыццё (хоць і падпадала маніпуляцыям) стала сведкам двух прэзідэнцкіх выбараў з сапраўдным суперніцтвам. Цяпер ніхто не можа прадказаць вынікі прэзідэнцкіх выбараў, якія адбудуцца напрыканцы кастрычніка – рэзкі кантраст з «выбарамі» ў Расіі, дзе Пуцін быў адзіным рэальным кандыдатам.



На жаль, за апошнія некалькі гадоў Белы дом стварыў культ Пуціна, што моцна нашкодзіла расійскім дэмакратам, якія апынуліся ў вялікай ізаляцыі. Іх справа заслугоўвае падтрымкі. Яны храбра выступілі супраць задушэння свабодных СМІ. Яны выказвалі занепакоенасць скарачэннем расійскай дэмакратыі. Яны пратэставалі супраць бесчалавечных распраў у Чачні, якія мяжавалі з генацыдам. Але ніхто з іх не пачуў ні слова падтрымкі ад кіраўніцтва краіны, якая некалі высока ставіла правы чалавека насуперак камуністычнай тыраніі.

Адміністрацыя Буша павінна ўсвядоміць, што ўсё тое, што адбываецца ў Расіі, непасрэдна ўплывае на працэсы на ўсёй постсавецкай прасторы. Перспектывы дэмакратыі ў Расіі ўзаемазвязаныя з існаваннем нацыянальнага плюралізму на ўсёй былой тэрыторыі СССР і з распаўсюджаннем палітычнага плюралізму з самой Расіі.

**The Wall Street Journal**

*Збігнеў Бжэзінскі – вядомы амерыканскі палітычны дзеяч, быў дараднікам па нацыянальнай бяспецы прэзідэнта Картэра*

## Украінская апазіцыя: «Мы ведаем, хто атруціў Ючшанку»

«Лідэр апазіцыйнай кааліцыі «Сіла народа», дэпутат украінскага парламента, кандыдат у прэзідэнты Віктар Юшчанка атручаны рыцынам. Гэтае ядавітае рэчыва выкарыстоўваюць спецслужбы пры правядзенні сваіх тайных аперацый. Мы ўжо ведаем, хто даў заданне знішчыць Юшчанку», – заявіў старшыня Украінскай народнай партыі Юры Касценка.

З трыбуны парламента выступіў і сам Віктар Юшчанка. Не давялося сумнявацца, што ён зведаў уздзеянне таксічнага рэчыва, паведаміла агенцтва ПРИМА. Выгляд у яго быў надта хваравіты. Лідэр апазіцыі звярнуўся да дэпутатаў: «Мяне абышла смерць, бо мае анёлы не спалі». Ён растлумачыў, што яго фізічнае знішчэнне рыхтавала цяперашняя ўлада. Аднак забойцы не разлічылі дозу атруты.

Кансіліум дактароў прыватнай аўстрыйскай клінікі паставіў Юшчанку дыягназ «востры панкрэатыт з ацёчнымі зменамі, абумоўлены хімічным рэчывам». Па словах прафесара медыцыны Мікалая Корпана, гэтае рэчыва магло быць падмешана ў ежу.

Рыцын – атрута, якую атрымоўваюць з насення раслiннай клешчавіны. Смяротная доза – адзін міліграм. Пранікае ў арганізм праз органы дыхання ці з ежай. Выклікае сільны боль, сутаргі і затармoжвае свядомасць. Смерць наступае праз тыдзень. У 2002 годзе аналагічныя сімптомы захворвання былі ў дэпутата ўкраінскага парламента Алега Алексенкі. Ён хутка скануў. Чуткі аб яго атручанні рыцынам не сціхаюць дасюль.

«На Украіне існуе палітычная кухня, дзе заказваюць забойствы», – сцвярджае Віктар Юшчанка.

Генеральны пракурор Украіны Генадзь Васільеў прыступіў да расследавання па факце атручвання Юшчанкі. На думку апазіцыі, Генпракуратура прыкрывае правакацыі і злачынствы спецслужбаў, а галоўным заказчыкам забойстваў з'яўляецца прэзідэнт Украіны Леанід Кучма.

## Туркменбашы пакараў рублём

Восем высокапастаўленых кіраўнікоў урада Туркменіі пазбаўлены трохмесячных акладаў за невыкананне плану па збору бавоўны. Рашэнне аб пакаранні прыняў прэзідэнт краіны Сапармурат Ніязаў. «Вы пакараны за тое, што хлусілі, быццам усё добра з бавоўнай. Працуеце толькі пад дыктоўку. Я змарыўся вам указваць», – сказаў Ніязаў на паседжанні кабінета міністраў. Згодна з дадзенымі, якія прывёў Ніязаў, усяго сабрана 350 тысяч тон бавоўны-сырцу, тады як да сярэдзіны кастрычніка план абавязваў здаць 2,2 мільёна тон. Як адзначыў туркменскі прэзідэнт, з-за зрыву паставак застаюцца без сыравіны тэкстыльныя фабрыкі

## Швейцарцы паказалі сябе кансерватарамі

На мінулай нядзелі жыхары Швейцарыі выказаліся на рэферэндуме супраць рэформы, якая давала палёгку нашчадкам эмігрантаў у атрыманні грамадзянства.

Урад вынес на галасаванне папраўкі, згодна з якімі нараджаныя ў Швейцарыі дзеці эмігрантаў, а таксама тыя асобы, што выраслі і атрымалі адукацыю ў краіне, аўтаматычна маглі б атрымаць грамадзянства. На думку ўладаў, без гэтых рэформаў надта шмат людзей, якія пражываюць у краіне, не ўдзельнічаюць ў сістэме прамой дэмакратыі.

Большыня насельніцтва прагаласавала супраць зменаў у закон аб натуралізацыі. Франкамоўныя вобласці на захадзе краіны ў цэлым выказаліся болей лаяльна, тады як нямецкамоўныя альпійскія раёны на ўсходзе заявілі аб сваім адмоўным стаўленні да папраўак.

Згодна з існуючымі законамі, прашэнні аб атрыманні грамадзянства разглядаюць мясцовыя абшчыны і яны ж прымаюць канчатковае рашэнне. Гэта ўпісваецца ў сістэму прамой дэмакратыі Швейцарыі, аднак не выключае злоўжыванняў.

З 7-мільённага насельніцтва Швейцарыі 1,5 мільёна з'яўляюцца неграмадзянамі. Большыня з іх ці нарадзілася, ці жыве там ужо працяглы час. Аднак ім не дазваляецца ўдзельнічаць у выбарах ці займацца пэўнымі відамі дзейнасці, напрыклад, служыць у паліцыі.

Некаторыя абшчыны рэгулярна адмаўляюць у грамадзянстве ўраджэнцам былой Югаславіі ці афрыканскіх краінаў, нягледзячы на тое, што яны, згодна з законам, могуць стаць грамадзянамі Швейцарыі.

**BBC News**

# «0,5» – дух рэстаўрацыі

Колькі было прыемных спадзяванняў, калі на плошчы Свабоды ў Мінску пачалася рэстаўрацыя былых гандлёвых радоў каля былога бернардынскага касцёла. Праводзіліся ўражлівыя раскопкі, газеты друкавалі здымкі раскапаных фундаментаў, рэстаўратары дзяліліся марамі аб паважаным выкарыстанні памяшканняў па заканчэнні рэстаўрацыйных работ. Мроіліся некаторым адкрытыя крамкі, людзі заходзяць, дзівуюць на інтэр`еры, настаўніцы вядуць малых менчукоў... Па праўдзе сказаць, не надта верылася, што такое магчыма, бо за тры крокі ад гандлёвых радоў стары квартал Верхняга горада быў цынічна аддадзены пад паркоўку легкавікоў бізнесмэнаў, а ў старым будынку, таксама адрэстаўраваным, пасялілася казіно «Адмірал». Аднак пасля выступлення Лукашэнкі ў абарону дастойнай рэстаўрацыі Верхняга горада ўзнікла ўпэўненасць, што гэтым разам дзялкі не здолеюць звычна замацавацца на гандлёвых радах. Што ў гэтых памяшканнях будзе прыкладна тое, што было паўтара стагоддзя таму – найперш прамтаварныя і прадуктовыя крамкі, продаж сувеніраў. Але бяда даверлівым і наіўным. Як начальства прызвычаілася – так і зрабіла. У былых гандлёвых радах пасяліўся «РЕСТОРАНЪ Пивной» з тлумачальным дадаткам «О,5». Каб ніхто не памыліўся, якім духам жыве рэстаўрацыя.

Зразумела, што рэдкія бацькі павядуць сваіх дзяцей на гістарычную экскурсію ў гэты «РЕСТОРАНЪ». Тым болей не пойдуць туды пасля нядзельнай малітвы вернікі Свята-Духава сабора, які размешчаны побач. Магчыма, наведвальнікі гэтай піўной установы, пагуляўшы ў адрэстаўраваных крамах, выйдуць памаліцца на святы крыж сабора, каб не зламаць ногі па дарозе дамоў. Але нашто было называць рэстаўрацыяй будаўніцтва яшчэ аднаго месца для распіцця «0,5»?

Немагчыма зразумець і пазіцыю святароў сабора і мітрапаліта Філарэта, які павінен быў катэгарычна запярэчыць, каб побач са святым месцам адкрылі такую ўстанову. Не надта прыемна будзе вернікам глядзець на падпітых наведвалькаў, якія прымуць «0,5». Да таго ж гэтая мясціна вакол царквы і гэтага рэстарана гэтак шчыльна застаўлена машынамі, што людзі ледзь праціскаюцца між імі, хоць тут наогул не павінна быць аўтатранспарту. Ды чаго дзівіцца, калі нешта робіцца, каб «0,5» прыносіла грошы, то такія дробязі, як выкарыстанне плошчы як месца для адпачынку, для знаёмства з гісторыяй Мінска, яго помнікамі, не маюць значэння для чынавенства, якое дазваляе тое, што павінна забараняць.

**Вольга КУРЛОВІЧ**




# Натхненне і мелодыі Вальжыны Цярэшчанкі

Гэты дыск павінен быў з'явіцца ў серыі, што выдае грамадская ініцыятыва БМАgroup пад назвай «Беларускі музычны архіў». У гэтай серыі ўжо пабачылі свет дыскі такіх знакамітых беларускіх бардаў, як Сяржук Сокалаў-Воюш і Віктар Шалкевіч.

Але вядомая гомельская спявачка і кампазітар Вальжына Цярэшчанка палічыла, што яе песні яшчэ «маладыя» для архіву і настаяла на выданні ейных песень асобным альбомам «...Хтось крануўся крылаў...»




Адчыняецца яе праграма самым знакамітым творам спявачкі – «Запяі мне песьню» на верш Ларысы Геніюш. У гэтай вядомай песні геніяльная паэзія гарманічна злілася з цудоўнай мелодыкай, падмацаванай выдатным, глыбока прачулым выкананнем. Аўтару гэтых радкоў даводзілася слухаць гэты твор не толькі ў запісу, але і ў «жывым» выкананні, і магію ўздзеяння яго адчуць на сабе. Сапраўды, усе складнікі песні ўздзейнічаюць на слухача, як выбух: абыякавым да паэзіі Ларысы Геніюш, мелодыі і выканання застацца немагчыма! Гэта робіць песню «залатой» у скарбонцы беларускай бардаўскай песні. Упэўнены, што чароўная мелодыя, пранікнёная, патрыятычная паэзія гэтага шэдэўра яшчэ доўга будзе радаваць беларускіх слухачоў. Як і іншыя творы на вершы менавіта гэтай паэткі-змагаркі – «Божа на свеце», «Мы паэты», «Край мой родны».

Але не толькі «Запяі мне песьню» стварае духоўны стрыжань гэтага дыска. Безумоўна, увагу слухачоў прыцягне песня Вальжыны ў блюзавай стылістыцы «Таццяне Сапач». Яна быццам бы напамін пра студэнцкія гады спявачкі, пра гады надзей і спадзяванняў. Іншыя ж аўтарскія песні Вальжыны, таксама, сведчаць пра яе талент увасабляць сваю паэзію ў незабыўную музычную абалонку. Тут варта засяродзіць увагу на такіх песнях, як «Жаданьне», «Музыкі з Гомлі ў Швецыі» (на шведскай мове).

Цудоўная паэзія, пакладзеная на зіхатлівыя мелодыі Вальжыны Цярэшчанкі, агучваецца ў «Рамансе аб расстраляным каханні», «У бездарожжа» (У.Караткевіч), «Уладзіміру Караткевічу» (Зьніч), «Айчына-Радзіма» (А.Барскі), «Трызьненьне» (Я.Чарот), «Накінулі сяброўкі» (Д.Бічэль-Загнетава)... Шмат увагі ў сваёй творчасці спявачка надае творчасці такога знанага беларускага паэта, як Алесь Гарун. Песні «Літанне адзіноце», «Дзяўчаці», а таксама «У чатырохгодьдзе «Нашай Нівы» – сапраўдны ўнёсак Вальжыны ў музычна-паэтычную скарбонку Беларусі. Цікава, што апошняя песня на верш А.Гаруна гучыць тут адрозна ад той версіі, якая прадстаўлена на іншым дыску спявачкі – «The best».

Многія песні з гэтага альбому былі запісаны ў студыі «Soundergraft», што ў Швецыі. У гэтай краіне выйшаў таксама кампакт-дыск беларускай спявачкі. Пра тое, як адбываўся гэты запіс, распавядае сама Вальжына: «Я была педагогам групы хворых на астму дзяцей, якіх запрасіла ў Швецыю дабрачынная арганізацыя «Зорка надзеі». Усё падарожжа я не развітвалася з гітарай. Разам з дзецьмі мы спявалі розныя песні. І пачуўшы мае спевы, мне прапанавалі запісаць дыск на прыватнай студыі Дэвіда Персана з горада Арнкольдсвік. Шведы пыталіся наконт правоў на выданне дыска, але мяне тады хвалявалі іншыя праблемы. Пра тое, што ў Швецыі выдалі мой дыск, я чула, але дыска не бачыла. Што ж тычыцца гэтага альбому, то ў плане якасці гэты дыск – новы прафесійны ўзровень».

Тое, што Вальжына Цярэшчанка скончыла музычнае аддзяленне Гомельскай педагагічнай вучэльні і спявала ў народным фальклорным гурце, знайшло свой адбітак і на дыску «...Хтось крануўся крылаў...» Больш паловы трэкаў на дыску прадстаўляюць беларускі фальклор, хоць спявачцы блізкія і цыганскія, і польскія народныя песні. Вальжына тлумачыць гэта наступным чынам: «Акрамя звычайных прыхільнікаў бардаўскай песні, гэты дыск можа быць карысны для настаўнікаў-філолагаў пачатковых класаў – ён, на мой погляд, нясе адбітак асветніцтва. Думаю, гэты альбом будзе карысны для тых, хто хоча данесці беларушчыну да дзяцей». І тут фальклор – найлепшы дапаможнік для педагога, упэўнена Вальжына, якая прапануе свой вопыт у якасці музычных прыкладаў для навучання спевам – песні-калядкі «Прывітальная», «Гэй, высока», «Анёла сьпеў», «Ідзёт зьвязда», «Хвала Богу даймо», «Нова радасць стала». Апошняя з названых – старажытны беларускі кант на запісу Вальжыне дапамагае выканаць бард Зміцер Вінаградаў.

Еўрапейская хрысціянская музыка на дыску Вальжыны Цярэшчанкі прадстаўлена трэкам з кампазіцыяй паводле «Ціхай ночы» Франца Грубэра і Ёзэфа Мора, а таксама традыцыйным хрысціянскім гімнам у перакладзе Вальжыны «Абба Ойча».

Хрысціянская тэматыка гучыць і на трэку, які завяршае дыск, – у песні «Беларусь», якую Вальжына Цярэшчанка выконвае разам са Зміцерам Вінаградавым ужо ў поп-рокавай стылістыцы. Гэта сапраўдны гімн-малітва за Бацькаўшчыну, за працавітых людзей, якія насяляюць наш край. Магчыма, гэта крыху нязвычна, але больш зразумела.

**Анатоль МЯЛЬГУЙ**

# Музей амерыканскіх індзейцаў



У сталіцы ЗША Вашынгтоне адкрыўся першы ў краіне Нацыянальны музей амерыканскіх індзейцаў. У ім сабрана звыш васьмі тысяч рэчаў, злучаных з гісторыяй карэннага насельніцтва Амерыкі.

Кошт стварэння музейнага комплексу работы архітэктара-індзейца Дугласа Кардынала з Канады складае 219 мільёнаў даляраў. Палова гэтых сродкаў – прыватныя ахвяраванні.

Будынак музея ўяўляе сабой абстрактную фігуру, якая выканана ў форме індзейскіх татэмаў. Нацыянальны музей індзейцаў, на святочнае адкрыццё якога прыбылі тысячы прадстаўнікоў розных індзейскіх плямёнаў у нацыянальным адзенні, павінен «разбурыць стэрэатыпнае ўспрыняцце індзейцаў у амерыканскім грамадстве».

Стваральнікі музея надалі ўвагу гісторыі індзейскіх плямёнаў на тэрыторыі ЗША, уключна з з такімі аспектамі, як валоданне індзейскімі плямёнамі ігральным бізнесам і прадпрыемствамі народных рамёстваў.

Аднак стваральнікі музея не сталі прысвячаць спецыяльную экспазіцыю музея жорсткім падзеям XIX стагоддзя, калі індзейцы вялі вайну супраць белых захопнікаў і каланізатараў. Па словах куратара музея Рычарда Веста, выхадца з індзейскага племені, стваральнікі музея не хочуць паказваць індзейцаў у якасці «ахвяраў».

На сённяшні дзень на тэрыторыі ЗША, па дадзеных перапісу 2000 года, жывуць 2,4 мільёна чалавек, якія адносяць сябе да індзейцаў. Яшчэ адна частка амерыканскага насельніцтва – 1,9 мільёна чалавек – лічыць сябе нашчадкамі змешаных шлюбаў з індзейцамі. Больш за ўсё індзейцы жывуць у штатах Каліфорнія, Аклахома, Арызона і Тэхас.

# Прычыны непаспяховасці ў школе

Чаму па адных дысцыплінах ваша дзіця паспявае, а па іншых – не? Прычына адставання можа крыцца ў фізіялагічных адхіленнях. Як можа адбіцца траўма пры родах? На што ўплывае прасторавае ўспрыняцце? Да якіх спецыялістаў трэба звяртацца ў выпадку непаспяховасці па розных навуках? Пра гэта інтэрв'ю з педагогам вышэйшай катэгорыі, доктарам-дэфектолагам Марыяй Трубіной.

**– Што можа азначаць адставанне ў пісьме?**

– Калі дзіця да першага класа не мае навыкаў пісьма і не можа запомніць літары, то тут можа быць некалькі прычын. Напрыклад, парушэнне зрокавай памяці. Другая магчымая прычына – праблема лагапедычная, калі ў дзіцяці парушана зрокавае ўспрыняцце, і яно не можа складаць прапанаваныя яму вобразы ў літарах. Трэцяе – гэта парушэнне прасторавага ўспрыняцця. Аднак любы з гэтых недахопаў можна пераадолець.

**– Калі дзіця дрэнна засвойвае формулы: геаметрыю, трыганаметрыю, хімію?**

– Гэта можа быць звязана зноў жа з прасторавым успрыняццем, як і парушэнне слоўна-лагічнага мыслення. Дзіцяці цяжка абстрагіраваць лініі і формулы ад канкрэтнага напісання і яно не разумее зместу, які ўкладзены ў гэтыя формулы. Зноў жа – пераадольны дэфект.

**– Калі дзіцяці цяжка даецца матэматыка?**

– Гэта можа быць парушэнне прасторавага ўспрыняцця. А можа, у свой час яно механічна вывучыла лічбы (добрая механічная памяць), але яно не ўяўляе, што крыецца за лічбай «3», што лічба «6» можа быць складзена з 4 і 2. На механічным узроўні яго дашкольная база дапамагае яму ў пачатковы перыяд, але потым, калі праграма будзе ўскладняцца, яно з ёй не справіцца і не яго ў гэтым віна. Трэба прадыягнаставаць прасторавае ўспрыняцце.

**– А калі дзяўчынка не можа вывучыць ноты: пішуць дзве аднолькавыя ноты на адной лінейцы, а яна называе іх па-рознаму?**

– Тут ці парушаны працэсы ўвагі, што можа высветліць толькі спецыяліст. А магчыма дзіця не здольнае зрокава суаднесці дзве побач намаляваныя ноты, яму, можа, трэба пальцам пералічыць лінейкі, а зрокава яно не дыферэнцыруе кожную лінейку. У гэтым выпадку можа ісці размова пра парушэнне зрокавага ўспрыняцця. Ёсць яшчэ адзін варыянт: магчыма, у дзіцяці ідзе паніжэнне зроку, і яно проста не бачыць лінеек. Прычым, усе гэтыя праблемы характэрныя не толькі для малых. Яны могуць выявіцца ў любым узросце. У старэйшых класах парушэнне прасторавага ўспрыняцця можа адбіцца на трыганаметрыі, на чарчэнні, на фізіцы.

**– Ці можна сказаць так, што за непаспяховасцю па дысцыплінах у дзіцяці можа стаяць не толькі псіхалагічная, але і нейкая фізіялагічная прычына?**

– Так, і, на жаль, гэтая прычына ў апошні час дамінуе. Прыходзячы ў першы клас, мноства дзяцей мае хранічныя захворванні, ідуць у школу саматычна саслабелыя, часта хварэюць, што прыводзіць да пропуску заняткаў. У выніку дзіця рэгулярна не паспявае засвоіць праграмны матэрыял. Яно вымушана займацца дадаткова, а паколькі яго знясілелі частыя хваробы, у яго праблемы, як снежны камяк, накручваюцца. Мы іншым разам сустракаем дзіця ўжо на парозе крызіснай сітуацыі.

Вось, прыкладам, сітуацыя з пісьмом: прычына можа быць у тым, што ў свой час у дзіцяці не было сфарміравана фанетычнае ўспрыняцце. Дзіця не чуе гукаў і таму піша з памылкамі. Яно не чуе складоў у сярэдзіне словаў, а яму гавораць: «Будзь уважлівы». Дзіця старaецца, але правільна выконваць заданні яно фізічна не ў стане, а лічыцца вінаватым і атрымоўвае па каршэні. Вынік – стрэсавая сітуацыя. Таму, шаноўныя бацькі, не спяшайцеся за любую непаспяховасць папікаць дзіця лянотай – звадзіце спачатку да спецыялістаў. Можна з дзіцем чытаць па дзве-тры гадзіны, бясконца перапісваць тэксты і працаваць над памылкамі, але яно ўсё роўна не зможа пісаць без памылак. Бо фізіялагічную прычыну не могуць акрэсліць ні бацькі, ні настаўнік.

**– Да якіх спецыялістаў трэба звяртацца за дапамогай?**

– У першую чаргу гэта лагапед (ён займаецца не толькі пастаноўкай правільнага вымаўлення). Абавязкова – дэфектолаг, які ацэньвае ўзровень пазнавальнай дзейнасці, навучальнасці дзіцяці. І абавязкова псіхолаг, які працуе над фарміраваннем вучэбнай матывацыі, над развіццём эмацыйна-валявых працэсаў. У апошні час яны ўсё часцей працуюць разам. І, канечне, без неўрапатолага, без псіхіятра ў некаторых выпадках не абысціся. Гэтыя два спецыялісты высветляць, ці патрэбна дзіця палячыць. Напрыклад, у сярэдніх класах, калі адбываецца гарманальная перабудова арганізма і актыўны рост, бываюць такія праблемы, як моцны галаўны боль. Дзіця ў такім стане не можа вучыцца! Бацькі кормяць яго анальгетыкамі, але прычына можа быць зусім у іншым: магчыма, была родавая траўма, якая цяпер – менавіта ў гэты перыяд – нагадала пра сябе. І – цалкам магчыма, што ў дзіцяці дыстанія сасудаў – тады бессэнсоўна піць анальгін. Неабходна звярнуцца да неўрапатолага. Бо з-за звужэння сасудаў галаўнога мозгу ўзнікае не толькі боль, але і паніжаецца ўзровень працаздольнасці мозгу. Мала хто з бацькоў пра гэта ведае.

**– Па якіх прыкметах бацькі могуць ацаніць, што дзіця час весці на абследаванне? На што рэагаваць як на сімптом?**

– Калі дзіця ў першым класе пачало навучанне паспяхова, а ў класе трэцім раптам настаўнікі заяўляюць, што яно не спраўляецца з праграмай. Гэта першы сігнал аб тым, што трэба звяртацца да спецыялістаў. Бацькі і настаўнік бачаць толькі наступствы: «дзіця не паспявае», а прычыну могуць знайсці толькі спецыялісты. Іншыя сімптомы – гэта нежаданне хадзіць у школу: зноў жа не трэба спяшацца тлумачыць дзіцяці, што гэта яго абавязак. Няхай дзіця спачатку агледзіць псіхолаг – можа, там быў канфлікт, а магчыма, у дзіцяці праблемы іншага роду. Напрыклад, закончыўся запас дашкольных ведаў... А паколькі вучыцца ў пачатковай школе яму было лёгка, і раптам у яго не атрымоўваецца, ён гэтага пужаецца і жаданне да вучобы знікае.

Яшчэ раз хачу падкрэсліць, што фізіялагічныя прычыны адставання ў вучобе могуць датычыць школьнікаў любога ўзросту: проста ў розным узросце гэтыя прычыны розныя. Бацькі не павінны лянавацца завесці дзіця на агляд да спецыялістаў. Ім жа самім будзе прасцей і спакайней жыць, не гаворачы, што дапамогуць паспяхова вучыцца свайму дзіцяці.

**Inauka.ru**

## Пункт гледзішча

# *Парацэльс - псеўданім генія*



Самы вядомы з швейцарцаў, адзін з трох самых знакамітых дактароў у гісторыі, вынаходца таямнічага эліксіру жыцця, стваральнік у лабараторнай колбе штучнага чалавека, гамункулуса, Парацэльс нарадзіўся ў 1493 годзе каля Цюрыха ў дваранскай сям'і. Яго сапраўднае імя – Філіп Аўрэал Тэафраст Бамбаст фон Гогенгейм.

Яго бацька быў у сваяцтве з грасмэйстарам ордэна іанітаў, але калі род збяднеў, заняўся лекарскай практыкай і атрымаў у сваім рэгіёне шырокую вядомасць. Захапленне бацькі вызначыла і галоўны інтарэс юнака. У 22 гады пасля вучобы ў Ферарскім універсітэце Парацэльс атрымаў ступень доктара медыцыны. Лячылі тады па тэорыі Галена аб «чатырох соках» чалавечага арганізму – кровапусканнем, прымусовай рвотай, закутваннем у футра, каб хворы пацеў, ці прымусова выклікалі панос (знакаміты тып доктара Пургена – гэта з таго часу). Працэнт выздараўленняў быў нікчэмна малы.

У пошуках сапраўдных ведаў Парацэльс вырушыў у вандроўку па свеце. Сустракаючы вядзьмарак, павітух, знахараў, ён выпытваў у іх сакрэты іхняга рамясла. На радзіму Парацэльс вярнуўся з вялікім вопытам практыка. У 1526 годзе Парацэльса ўзялі прафесарам у Базельскі універсітэт. Сваю першую лекцыю трыццацітрохгадовы прафесар прачытаў не на латыні, афіцыйнай мове тагачаснай навукі, а на жывой нямецкай мове. У часе лекцыі ён публічна спаліў працы непагрэшнага тады Галена, што было ўспрынята, як выбух бомбы.

Уся Еўропа толькі і гаварыла пра лекара-арыгінала, які не толькі лячыў, але і вылечваў. Менавіта да яго, а не да «непахісных аўтарытэтаў», пачалі звяртацца ўладары, арыстакраты, знакамітасці. Менавіта да Парацэльса звярнуўся аўтар «Пахвальнага слова глупству» Эразм Ратэрдамскі, калі захварэў.

Як і чым вылечваў Парацэльс? У медыцыне ён на стагоддзі апярэджваў свой час, скарыстоўваючы нязнаныя тады лекі. Так, невылечны тады сіфіліс ён вылечваў малымі дозамі пароў ртуці. Ён першым прымяніў пры аперацыях абязбольванне – настой опійнага маку – да яго аперацыі праводзіліся без наркозу, дактары рэзалі па жывым целе.

Скарыстоўваючы веру пацыента ў гаючую сілу медыкаментаў, ён іншым разам замест лекаў даваў хворым пустыя аблаткі, і хворыя выздараўлівалі. Так быў адкрыты эфект плацэба. Усе працэсы, што адбываюцца ў арганізме, Парацэльс разглядаў выключна з хімічнага пункту гледзішча, зыходзячы з таго, што сам чалавек – неад'емная частка прыроды.

Парацэльс быў не толькі «першым хімікам» у медыцыне, але і «першым псіхіятрам». Гэта ён першы выказаў думку, што гэтак званыя «беснаватыя» ёсць душэўнахворыя, якіх можна і трэба лячыць і як мінімум, абыходзіцца з імі гуманна. Гэта прагучала ў той час, калі такіх людзей шырока спальвалі на кастрах за тое, што яны «водзяцца з д'яблам».

Маральнае аблічча першага лекара Еўропы не было бездакорным. Ён мог перапіць кожнага, і карчмаркі не паспявалі насіць жбаны з маладым віном да стала, дзе шумела кампанія Парацэльса. Гняўлівы, ён нікому не дараваў не толькі абразаў, але і зусім бясшкодных жартаў, адразу выклікаючы крыўдзіцеля на дуэль. Сам жа пад уплывам віна не стрымліваўся ад кпінаў і знявагі. Таму ворагаў у яго было болей, чым трэба. Сярод «хібаў» Парацэльса няма толькі захаплення жанчынамі, што ён лічыў за вар'яцтва. Перад жаночай кампаніяй малады прафесар аддаваў перавагу мужчынскай.

Пры такіх паводзінах і рашучасці ў звяржэнні медыцынскіх аўтарытэтаў кіраўніцтва універсітэта вырашыла за лепшае расстацца з Парацэльсам і пазбавіла яго кафедры. Геніяльны лекар змяніў мантыю на кій вандроўніка. Беднякоў Парацэльс лячыў дарам, з багатых браў астранамічныя сумы ганарару. Афіцыйнае прызнанне прыйшло да Парацэльса толькі пасля публікацыі яго класічнай працы «Вялікая хірургія».

У верасні 1541 года саракасямігадовы Парацэльс, за якім была слава празорцы, нечакана абвясціў аб сваёй блізкай смерці і склаў запавет. Абдумваць гэты запавет Парацэльс пайшоў у сваю любімую таверну, дзе таго ж дня ўвечары і сканаў ад сардэчнага прыступу.

**Ігар КАНТАВЕЦ**

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
Тэл.: 288–23–52

E-mail: nchas@tbm.org.by

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні ТДА «Знамение».
Ліцэнзія № 02330/0056677 ад 29.03.2004 г.
220108, Мінск, вул. Каржанеўскага, 14. Замова № 691
Падпісана да друку 30.09.2004 (12:00).
Наклад 2300 асобнікаў. Кошт свабодны.